ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 27 (2606)
ПЯТНІЦА
7
ліпеня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.

## *90 ГОД З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯНКІ КУПАЛЫ*



**ЯГО ПЕСНІ БУДУЦЬ ПЕРАХОДЗІЦЬ З ПАКАЛЕННЯ Ў ПАКАЛЕННЕ. ЯГО ВЕРШЫ БУДУЦЬ УЗОРАМІ ДЛЯ НОВЫХ ПЕСНЯРОЎ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА. ЯНЫ БУДУЦЬ АБУДЖАЦЬ У СЭРЦЫ ЛЮДЗЕЙ ЛЕПШАЕ ПАЧУЦЦЁ, І ЛЕПШЫЯ ЧАЛАВЕЧЫЯ ІМКНЕННІ ДА ЯСНЫХ СОНЕЧНЫХ ДЗЁН, АБ ЯКІХ ЧАСТА ПІСАЎ ПАЭТ І ДЗЕ ЗАЎСЁДЫ БУДУЦЬ ПРАЎДА І СПРАВЯДЛІВАСЦЬ.**

*Якуб Колас*

# ДА НОВЫХ СУСТРЭЧ!

Роўна месяц знаходзіўся ў Мінску Дзяржаўны акадэмічны ордэна Леніна Малы тэатр Саюза ССР. Праслаўлены драматычны калектыў паказаў мінчанам лепшыя пастаноўкі свайго асноўнага рэпертуару, у якіх былі заняты вядучыя майстры сцэны і прадстаўнікі маладога артыстычнага пакалення. Больш чым 50 тысяч гледачоў пабывалі на яго спектаклях.

У апошнія дні тэатр паказаў сваю новую работу — драму Г. Гауптмана «Перад заходам сонца». Спектакль, вырашаны ў цудоўных традыцыях калектыву, быў цёпла прыняты мінчанамі.

2 ліпеня Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Ф. А. Сурганаў прыняў групу вядучых артыстаў Малога тэатра Саюза ССР. Ён уручыў Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, якой калектыў узнагароджаны за паспяховае правядзенне гастролей у Мінску і вялікую работу па мастацкім абслугоўванні працоўных рэспублікі. Ф. А. Сурганаў пажадаў тэатру новых поспехаў у яго вялікай творчай дзейнасці. Ад імя калектыву дырэктар тэатра, народны артыст СССР М. І. Цароў выказаў сардэчную ўдзячнасць за высокую ўзнагароду.

Вечарам, пасля заканчэння завяршаючага гастролі прадстаўлення, гледачы наладзілі ўдзельнікам спектакля працяглую авацыю. Ад імя Міністэрства культуры БССР, тэатральнай грамадскасці горада, дзесяткаў тысяч гледачоў міністр культуры БССР Ю. М. Міхневіч горача падзякаваў калектыву Малога тэатра за яго вялікае мастацтва, высокае сцэнічнае майстэрства, прыезд у Беларусь у пярэдадзень вялікага свята — 50-годдзя ўтварэння СССР.

На заключным спектаклі Дзяржаўнага акадэмічнага Малога тэатра Саюза ССР прысутнічалі кандыдат у члены Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КПБ П. М. Машэраў, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Ф. А. Сурганаў, сакратар ЦК КПБ А. Т. Кузьмін.

БЕЛТА.



Беларусь урачыста святкуе слаўны юбілей свайго вялікага сына, народнага песняра Янкі Купалы. У рэспубліцы няма кутка, дзе б сёння не называлі з пашанай яго імя, дзе б не гучала яго пранікнёнае слова. Да нас у госці з прывітаннем шчырым прыбылі дэлегацыі — з Масквы і Ленінграда, з братніх саюзных рэспублік, з абласцей Беларусі. Іх першыя крокі былі да свяшчэнных мясцін, звязаных з памяццю вялікага паэта. Госці і ўдзельнікі купалаўскіх урачыстасцей прысутнічалі на навуковай сесіі АН БССР, прысвечанай 90-годдзю паэта. Сёння ў Мінску будзе адкрыты велічны помнік песняру, а затым грамадскасць сталіцы і госці збяруцца на ўрачысты сход, каб добрым словам ушанаваць памяць песняра нашага народа. Заўтра, 8 ліпеня, на радзіму Купалы, у Вязынку, з'едуцца прыхільнікі яго творчасці на свята паэзіі. Са сваімі чытачамі сустрэнуцца паэты Беларусі і братніх рэспублік, каля помніка Янку Купалу будзе гучаць слова яго паэтычных пераемнікаў... Адбудзецца святочны канцэрт. Удзельнікі паэтычнага свята пазнаёмяцца з фільмамі, прысвечанымі вялікаму песняру.





Іван НАВУМЕНКА

# ВЯЛІКІ



Цяжка пераацаніць значэнне творчасці Янкі Купалы для нашай літаратуры. Калі акінуць мысленным позіркам тое, што мела беларуская літаратура да прыходу ў яе Купалы і Коласа, то карціна будзе не дужа радаснай. Суседнія братнія народы, асабліва рускі і польскі, дасягнулі бліскучых вышынь у развіцці свайго слоўнага мастацтва, а беларуская літаратура, па сутнасці, толькі складвалася. Мела, вядома, і яна яркія таленты: дастаткова назваць паэму «Тарас на Парнасе», імёны В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, Янку Лучыну, але пісьменніка, які б выявіў карэнныя пласты народнай самасвядомасці, глыбіні народнага духу, веліч сацыяльных і нацыянальных імкненняў беларусаў яшчэ не з'явілася. Такімі пісьменнікаму суджана было стаць Янку Купалу і Якубу Коласу.

Як бы ва ўзнагароду за доўгае чаканне гісторыя падаравала нашай літаратуры адразу двух волатаў, што здзейснілі задачу незвычайнай важнасці, — з этнаграфічна-правінцыяльнай, мясцовай, у многіх адносінах абмежаванай, яны вывелі беларускую літаратуру ў шэраг развітых, мастацка дасканалых, па-філасофску глыбокіх, што ўжо не толькі роднаму народу неслі праўду аб яго жыцці, а і другім народам мовай яркага, высокага мастацтва расказвалі пра Беларусь. Працэс гэты мы ў першую чаргу звязваем з імем Янкі Купалы.

Цяжка пераацаніць з'яўленне магутнага таленту, даравання для лёсу нацыянальнага мастацтва. У такі час як бы адбываецца найвялікшы акт самапазнання народам сябе самога, свайго характару, сваіх стоеных унутраных сіл. У рускай літаратуры гэтую высокую місію здзейсніў геніяльны Пушкін, ва ўкраінскай — Шаўчэнка, у нас — Купала.

На хвіліну перанясёмся мысленным позіркам ў тыя ўяўленні, якія бытавалі пра Беларусь доўгія вякі, пакуль не прыйшоў у літаратуру Янка Купала. Адносна народа, які жыў на гэтай зямлі, думка была, бадай, аднадушная: забіты, занядбаны да самай апошняй ступені. Купала таксама не адвяргае такога погляду. Сотні момантаў вясковага побыту разгорне перад намі паэт, многа разоў паўстане ў вобліку свайго ўлюбёнага героя — селяніна-бедняка, не абміне ніводнай праявы ў тыпова сялянскім, беларускім жыцці-быцці, не раз звернецца з папрокам да селяніна за яго пасіўнасць, абыякавасць да свайго лёсу, інертнасць. Гэты герой-селянін на працягу ўсёй дарэвалюцыйнай купалавай творчасці не перастае скардзіцца на вузкі свой загон, на нястачу хлеба, солі, вопраткі, абутку для дзяцей і жонкі, сена для каровы, дроў для апалу хаты, на тое, што працякае саламяная страха ў хаце і ў хляве, што казна падціскае падаткамі, што цяжка зарабіць рубля на старане.

Беззямелле, страшэнная неўладкаванасць сялянскага жыцця, прыніжаная чалавечая годнасць селяніна-беларуса, і, нарэшце, трагедыя народа, якому адмаўляюць у праве называцца народам вось матывы шматлікіх купалаўскіх вершаў і паэм, якія ўбачылі свет у дарэвалюцыйную пару.

Але калі б Купала пісаў толькі пра беднае, занядбанае жыццё селяніна, пра яго шматлікія незадаволеныя матэрыяльныя патрэбы, неўладкаванасць побыту, калі б і падымаўся нават да пратэсту супраць сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, то нічым істотным ад сваіх папярэднікаў ён бы не адрозніваўся. Такая паэзія па свайму значэнню наўрад ці выйшла б за межы мясцовага, нацыянальнага жыцця.

Купала ўзыйшоў да вяршынь паэзіі менавіта таму, што сваю горкую беларускую бяду ён узняў на паказ усяму свету, што, малюючы саламяную вёску, яе побыт, яе жыхара-селяніна, ён думаў адначасна пра ўвесь народ, з вышыні рэвалюцыйнага ідэалу бачыў ён свой народ, працоўнага чалавека раскутым, разняволеным; ён першы адчуў магутныя сілы, якія тояцца ў працоўным народзе. Так побач з чалавекам прыніжаным і занядбаным паяўляецца ў паэзіі Купалы і другі вобраз, — чалавека гордага, своеасаблівага, нераможнага. У адным шэрагу з галерэяй адвечных пакутнікаў «Янкаў ды Сымонкаў» пачэснае месца ў купалавай ліры зойме Гусляр з паэмы «Курган», які, не баючыся смерці, кіне бескампрамісны выклік сілам сацыяльнага прыгнёту і прымусу, гордая Бандароўна за лепшае выбера смерць, чым ганебнае існаванне ў панскіх пакоях. З той жа пароды свабодалюбцаў шматлікія «мужыкі», якія загаварылі ў Купалы з яўным усведамленнем сваёй чалавечай годнасці і непераможнасці.

> І кожны, хто мяне спытае,
> Пачуе толькі адзін крык:
> Што хоць мной кожны пагарджае,
> Я буду жыць, бо я — мужык!

«Людзьмі звацца» — гэты заклік стане лейтматывам паэзіі Купалы. Паэт высока ўзніме сцяг чалавека, «думнага цара зямлі», чалавека, які за свае ідэйныя перакананні ідзе на смерць, на эшафот. Паэзія Купалы як бы выконвае рэвалюцыйны заказ часу: менавіта такога героя і патрабавалі вызваленчыя сацыяльныя і нацыянальныя ідэалы, героя які б у першую чаргу адстойваў агульныя для ўсяго народа патрабаванні, забыў аб сваім асабістым, прыватным, гатоў быў аддаць уласнае жыццё, стаць ахвярай у імя ажыццяўлення народных, грамадскіх ідэалаў. Купалаўскі «Мужык» — вобраз абагулены, «сумарны», за ім як бы паўстае ўвесь працоўны беларускі народ.

Зноў на хвіліну задумаемся, каб вытлумачыць, як жа так здарылася, што з ліку паэтаў, якія прыйшлі ў літаратуру, толькі ў Купалы паяўляецца такі вялікі сваім размахам страсцей, імкненняў, сілы вобраз чалавека і народа? Адкуль выніклі гэтыя новыя якасці, невядомыя ўсёй папярэдняй літаратуры? Даказана даўно, што вялікага, геніяльнага паэта робяць дзве акалічнасці: асоба паэта і час, у які ён творыць. Пра асобу Купалы гаварыць не прыходзіцца, ён быў глыбока адораны ад прыроды, быў перадавым чалавекам свайго часу. З другога боку, паэзія Купалы ў сваёй шматфарбнай, рознагалосай плыні дум, пачуццяў, настрояў адлюстравала супярэчлівую яву першай рускай рэвалюцыі ва ўмовах Беларусі, калі ўпершыню асабліва востра праявіліся сацыяльныя і нацыянальныя спадзяванні беларускага народа. Час як бы трубіў у гераічныя трубы. Вядома, напрыклад, што па колькасці сялянскіх выступленняў, падпалаў панскіх маёнткаў, непаслушэнства ўладам Мінская губерня, у якой пачалося свядомае жыццё паэта, займала адно з першых месц у былой царскай імперыі. Водбліск гэтых пажараў як бы ляжыць на многім з напісанага Купалам.

Але ёсць яшчэ адна акалічнасць, якую нельга абмінуць, калі вытлумачыць з'яўленне ў беларускай літаратуры такога магутнага таленту, як Купала.

Да прыходу ў літаратуру Янкі Купалы духоўнае жыццё беларусаў, затаванае з прычыны пэўных гістарычных абставін пераважна ў вуснай народнай творчасці, ахоўніцай якога з'яўлялася вёска, было амаль не закранута кніжнай літаратурай. Быў адзін з багацейшых у славянскім свеце казачны эпас, незвычайна развіты і не менш багаты народны мелас, былі легенды, паняверкі, і Янка Купала, не могучы абмінуць гэтых бясцэнных скарбаў, першы зачарпнуў з народнай крыніцы поўна і шчодра. І сёння, калі мы здзіўляемся вышыні духоўных сяганняў многіх купалаўскіх герояў, калі захапляемся іх гераічнай прыродай, відаць, не трэба забываць, што іх стварыла, з аднаго боку, рэвалюцыйная ява на Беларусі, а з другога — народная памяць.

Янка Купала першы адчуў і ўвасобіў у мастацкім слове гераічную душу роднага народа, і ў гэтым яго найвялікшая заслуга перад беларускай літаратурай. Паэт быў своеасаблівым прарокам і як бы бачыў далёка наперад. У Вялікую Айчынную вайну беларускі народ здзейсніў такой агромністай сілы партызанскі подзвіг, якому здзіўляецца і будзе здзіўляцца свет. У гэтай сувязі варта сказаць аб тым, як многа ўвогуле даецца вялікім пісьменнікам. Да Купалы, да Коласа Беларусь лічылі краем балотным, хмурым, непрывабным. А прый-

# ...І СЛУХАЕ МАСКВА

*ГАСТРОЛІ АКАДЭМІЧНАГА ТЭАТРА імя КУПАЛЫ У СТАЛІЦЫ*

Пазаўчора спектаклем «Трыбунал» пачаліся ў Маскве выступленні лепшай драматычнай трупы Беларусі — Беларускага дзяржаўнага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.

Напярэдадні ад'езду ў Маскву карэспандэнт «Літаратуры і мастацтва» гутарыў з заслужаным артыстам БССР Сцяпанам Хацкевічам. Вось што сказаў адзін з акцёраў так званага другога пакалення купалаўцаў.

— Хвалюемся. Бадай, інакш і не перадаць наш настрой. Масква будзе глядзець спектаклі нашага тэатра не ўпершыню. Амаль кожны раз, вяртаючыся са сталіцы дамоў, мы прывозім незабыўныя ўражанні. Ёсць нешта ў маскоўскай публіцы надзвычай своеасаблівае: яна ўмее тонка ацэньваць тое адметнае, што характарызуе нацыянальную сцэну а калі заўважыць навізну і непаўторнае аблічча ў мастацтве гасцей, ставіцца да гэтага з павагай. Ад нас, ад трупы, залежыць — ці здолеем мы на гэты раз глыбока і арыгінальна паказаць сябе менавіта так.

Пасля першых паказаў у Мінску вязём «Раскіданае гняздо» Купалы і «У ноч зацьмення месяца» Карыма. Спектаклі яшчэ не набылі той устойлівасці, якая так памагае артысту адчуваць сябе на сцэне «гаспадаром ролі»! Мы яшчэ толькі пачалі прыслухоўвацца да рэакцыі глядзельнай залы, толькі далучыліся да цяпла і непасрэднасці публікі.

Асабіста я ўзрушаны тым, што і на гэты раз (раней у сталіцу «ездзіла» адна «Паўлінка») мы пазнаёмім Маскву з жывым і гарачым словам народнага песняра. Купалаўскае «Раскіданае гняздо» — наша боль і радасць, наш скарб і... бездань філасофская, чалавечая, сацыяльная, мастацкая! Як атрымалася ў нас? Мне давялося стаць у драме Лявонам Зяблікам. Раней я бачыў у гэтай ролі Цімоха Сяргейчыка. Калі сам паспрабаваў прамовіць першыя словы Лявона, адчуў, што вобраз гэты зусім не такі просты, якім ён здаецца, калі ён «чужы», не «твой». Мабыць, мой герой больш за ўсіх дзейных асоб адчувае і сваім мужыцкім розумам усведамляе сапраўдны трагізм жыцця. Зямля... людзі... дзеці... І — такое мора слёз! Яму цяжка «зняць» з сэрца пэўныя словы, даць ясныя фармулёўкі тым з'явам, якія адбываюцца, але ён усё ведае. І пакутуе. І яго крыўдзіць тая асабістая бездапаможнасць, якой ён здзіўляецца, гледзячы на свае магутныя калісьці рукі, рукі аратага, каваля, цеслі... Бездапаможны і — вольны духам! Складана...

Калі паспрабаваць адным словам вызначыць, чым мы жылі, калі рэпеціравалі «Раскіданае гняздо», дык самае правільнае, мабыць, будзе такое — паглыбленне. У нетры, у сэрцавіну таго, што кажуць, таго, што робяць Зяблікі — і старыя, і малыя.

Канечне, кожны спектакль—адказны. І ўсё ж імя Янкі Купалы, якое носіць тэатр, абавязвае нас з трапяткім творчым нервам і на самым высокім узроўні іграць яго выдатную драму, яго шэдэўр, магчыма, шэкспіраўскай сілы — «Раскіданае гняздо». Масква сёлета ў ліпені слухае Купалу ў часе паказу гэтага спектакля. І хвалюемся. І — адчуваем прыліў нейкіх пачуццяў, якім я не знаходжу акрэсленага вызначэння. А можа гэта і ёсць натхненне?.. Сказаць так — боязна. І — хочацца. Бо хочацца, каб купалаўскі твор прагучаў там у Маскве, натхнёна. Як ён і напісаны... Народная драма. Народная па сутнасці, па настрою, па характарах.

З такім адчуваннем адказнасці перад патрабавальным гледачом выправіліся мы ў гастрольную паездку лета 1972-га...

# НАРОДНЫ ПАЭТ

шлі яны, зірнулі на родныя краявіды, родную зямлю вачамі яе закаханых сыноў, і колькі адкрылі прыгажосці, чараў у нашых някідкіх, на першы погляд, пейзажах. Завучваючы звонкія купалаўскія і коласаўскія вершы, мы і самі другімі вачамі зірнулі на родныя палі, лясы, рэкі і азёры.

Янка Купала — паэт незвычайна шырокага дыяпазону. Струны яго душы ў першую чаргу адгукваліся на ўсё вялікаснае, гераічнае, але адным гэтым мы не вымяраем шырыні купалаўскага таленту. Побач з гордай Бандароўнай ёсць разумная, іскрамётная Паўлінка, побач з музыкай-гусляром — Мікіта Зносак з п'есы «Тутэйшыя». Усё, што можа змяшчаць чалавечае сэрца і розум, уся бясконцая гама чалавечых парыванняў, пачуццяў, узаемаадносін, якія мы вымяраем эстэтычнымі катэгорыямі высокага, трагічнага, камічнага, усё, што называем гераічным і будзённым, драматычным і лірычным, патэтыкай і гумарам, — усё гэта ёсць у спадчыне паэта. Думка Купалы можа лунаць у паднябессі і спускацца на зямлю, у звычайныя будні побыту; тварэнні паэта паўстаюць перад намі то прасякнутыя глыбокім філасофскім роздумам, то авеяныя мілай, грацыёзнай бесклапотнасцю. Муза Купалы ўмее плакаць і смяяцца, быць гнеўнай, па-грамадзянску бескампраміснай і адначасна па-сялянску ціхай, незласлівай, сузіральна-спакойнай.

Усё, аб чым пісаў Купала, вырашаецца на глебе беларускай рэчаіснасці — сацыяльнай і гістарычнай. Гэта паэзія — з'ява вялікай гістарычнай эпохі, гістарычнага скрыжавання, калі адыходзіў у нябыт свет стары, заснаваны на падаўленні, прыніжэнні «чалавечага ў чалавеку», на «адчужэнні чалавека ад яго сутнасці» (К. Маркс), і нараджаўся свет новы.

Сёння, на больш чым паўвекавой адлегласці ў часе, які аддзяляе нас ад гадоў, калі толькі закладваўся падмурак беларускай савецкай літаратуры, яшчэ выразней бачыцца роля, значэнне Янкі Купалы ў стварэнні прынцыпаў новага сацыялістычнага мастацтва.

Маладая беларуская савецкая літаратура мела патрэбу ў аўтарытэтах. Сам па сабе факт, што найбольш вядомыя, прызнаныя яшчэ ў дарэвалюцыйную пару пісьменнікі, такія, як Янка Купала, Якуб Колас, Змітрок Бядуля, Цішка Гартны, сталі на бок Кастрычніцкай рэвалюцыі, а ў хуткім часе занялі віднае месца ў народжанай ідэямі Кастрычніка літаратуры, меў для лёсу гэтай літаратуры велізарнае значэнне.

З тэмай Радзімы, цэлага народа, якому адмоўлена ў чалавечых правах, прыйшоў Купала ў савецкую літаратуру. Паэт, які меў велізарны вопыт мастацкага выяўлення сацыяльнай несправядлівасці, гуманістычных ідэалаў, даволі хутка прыйшоў да творчай гармоніі сацыяльнага і нацыянальнага — як толькі стаў сведкам рэальных вынікаў нацыянальнага будаўніцтва, якое ажыццяўляла сацыялістычная рэвалюцыя.

У лагер Кастрычніцкай рэвалюцыі прывяла Купалу глыбокая народнасць яго творчасці.

Паводле слоў Якуба Коласа, «мастком», па якім Купала прыйшоў у савецкую літаратуру, стала яго паэма «Безназоўнае».

Але і да паэмы з'явіўся шэраг вершаў, сваім паэтычным рэгістрам чуйна настроеных на рэвалюцыю.

Калі вызначаць накірунак, шлях станаўлення Купалы як паэта савецкага, то відавочнай заканамернасцю на гэтым шляху будзе зблiжэнне паняццяў радзімы і рэвалюцыі. Вершам «На смерць Сцяпана Булата» (1921) паэт пачаў лінію, якая стане вызначальнай у яго творчасці 20-х гадоў.

> Свет узняўся, схамянуўся...
> Вер, свабодны вецер дуне
> Па ўсёй чыста Беларусі!
> — Сні, таварыш, аб камуне!

Паэзія Купалы ў далягляды савецкай явы імкне на рамантычных хвалях. Калі прыгледзецца ўважлівей — яна нічога не адкідвае з ранейшых набыткаў.

Купала сцвярджае савецкае жыццё, тое новае, што народжана рэвалюцыяй. Але паэт яшчэ болей, чым раней, даражыць народнай думкай, народнай ацэнкай той ці іншай з'явы. Ён цяпер увесь у фальклорнай стыхіі, яе вобразнасцю прасякнуты кожны твор, якую б, няхай сабе самую сучасную, тэму паэт ні вырашаў.

Адгукаючыся на падзеі часу, у 1929 годзе Купала напісаў выдатны верш-гімн «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...» Ён дарагі для нас і сёння той непадробленай, усхваляванай радасцю, з якой паэт развітваецца не толькі са старой вёскай, прытулкам сялянскай галечы, нэндзы, а і з вёскай, што была на працягу ўсёй яго творчасці асяродкам прыгожага, ахоўніцай паданняў, легенд. Наступае эпоха «новай долі, новай славы» («Гарбы тваіх нямых курганаў, дзе спяць нявольнікі і князі, парэжа сталь, як нож баранаў...»). Гэта верш-прадбачанне, верш-прароцтва. Купала глыбока адчуў і зразумеў сутнасць сацыялістычнай эпохі. Як не ўспомніць гэты верш сёння, калі Беларусь зрабілася высока індустрыяльнай рэспублікай, а за гады Савецкай улады так непазнавальна вырасла чалавечая асоба.

Купала ў сваёй паэзіі савецкага часу выдатна адчуў, што пры ўсёй грандыёзнасці сваіх намераў, імкненняў, патрабаванняў герой жыцця, які станавіўся героем літаратуры, вельмі чалавечны, ён ні ў якой ступені не пазбаўлены таго, што вызначала станоўчы маральны кодэкс народа ў мінулым. Новае ў вобліку гэтага героя, народжанае ці ўзмоцненае савецкімі ўмовамі жыцця, датычыць нязнанай раней злітнасці яго асобы з ходам грамадскага жыцця, герой перш за ўсё асоба эпічная, асабістае шчасце ён мысліць не як індывідуалістычнае, «вырванае» ў жыцця, а як звязанае са шчасцем грамадскім, агульным, калектыўным. Подзвіг героя ў такіх умовах выступае як служэнне ўсім. Нарэшце, Купала як бы завяшчаў няспынныя пошукі, распрацоўку вершаваных форм на аснове народнай паэтыкі, народнага ў вытоках сваіх светабачання, светаадчування.

Паэт выдатна адчуваў дух нястрымнага энтузіязму савецкай эпохі, яе наступальны пераўтваральны характар, паказваў свой народ, савецкага чалавека на гераічных, гістарычных пераважах жыццядзейнасці.

«Наша савецкая сучаснасць, нашы грандыёзныя дасягненні на ўсіх участках сацыялістычнага будаўніцтва, — пісаў Я. Купала ў 1933 годзе, — ёсць велізарны стымул для творчасці кожнага савецкага пісьменніка».

Купалу беларуская савецкая паэзія абавязана тым, што ён першы ўбачыў героя, сфарміраванага савецкімі, сацыялістычнымі ўмовамі жыцця, паказаў, што новае нясе ён у сваім душэўным складзе, ідэалах, імкненнях. Героі паэмы «Над ракой Арэсай», (1933), ляўкоўскага цыкла вершаў— перш за ўсё людзі дзеяння, веры ў свае сілы, ім у вышэйшай ступені ўласціва пачуццё грамадскай адказнасці за справу, яны ўмеюць прыносіць асабістае ў ахвяру грамадскаму. Купала ўбачыў і апеў новае ў духоўным вобліку савецкага чалавека, і ў гэтым заключаецца непераходзячае значэнне такіх твораў, як паэма «Над ракой Арэсай», вершаў «Беларусі ардэнаноснай», «Алеся», «Лён», «Выпраўляла маці сына», «Хлопчык і лётчык», «Сосны», для ўсёй беларускай паэзіі. З гэтых твораў пачынаецца новы герой беларускай літаратуры, сучаснік і ўдзельнік велічных, гераічных падзей, чалавек, які вырас у атмасферы савецкага жыцця. У сваіх учынках, паводзінах, імкненнях гэты герой увасабляў тыповы савецкі маральна-этычны кодэкс.

Калі ў дарэвалюцыйную пару паэт апяваў мілую яго сэрцу Беларусь, то ў савецкі час гарызонты яго паэзіі невымерна пашырыліся. Цяпер Радзіма для паэта — увесь шматнацыянальны Савецкі Саюз, шчасце свабоднай творчасці, здзейсненае савецкімі людзьмі. Мала ў якога другога паэта знойдзеш такія пранікнёныя, глыбока «асабістыя» вершы, прысвечаныя, скажам, Украіне, Грузіі, іншым савецкім рэспублікам, як у Купалы.

У беларускай паэзіі 20—30-х гадоў няма ніводнай больш-менш прыкметнай з'явы, якая б не брала вытокаў з творчай практыкі Купалы.

Купала бліскуча даказаў, што лірычная паэзія—зусім не абавязкова размова паэта аб самім сабе, што свет лірыкі абдымае незвычайна шырокае кола жыццёвых з'яў, убірае ў сябе тэмы грамадзянскія, сацыяльныя, палітычныя. Лірыка, паводле Купалы, перш за ўсё, адносіны, зацікаўленая ацэнка лірычным суб'ектам усяго таго, што робіцца ў вялікім, шырокім свеце, у навакольным жыцці. Беларуская паэзія ідзе купалаўскім шляхам. Было б, вядома, наіўным вытлумачваць бліскучыя поспехі беларускай паэзіі, якія праявіліся перш за ўсё ў творчасці П. Броўкі, М. Танка, П. Панчанкі і іншых, уздзеяннем на іх творчасць магутных талентаў Купалы ці Коласа. Кожны з памянёных паэтаў валодае сваім яркім, непаўторным дараваннем, пракладваючы ўласныя шляхі ў паэзію. Не баючыся перабольшвання, можна нават сказаць, што Броўка, Куляшоў, Танк, Панчанка пайшлі далей Купалы, Коласа ў паэтычным «асваенні» савецкай рэчаіснасці, у псіхалагізацыі лірыкі, у стварэнні вобраза лірычнага героя. Але старт беларуская савецкая паэзія ўзяла ад Купалы.

Лірыка Купалы заўсёды вяла размову аб самым істотным, значным у савецкім жыцці, як бы дэманструючы асноўныя духоўныя вартасці сацыялістычнага грамадства і чалавека. Гэтым прынцыпам, гэтым купалаўскім запаветам кіруюцца нязменна наступныя пакаленні беларускіх пісьменнікаў, памнажаючы творчыя поспехі і здабыткі роднай літаратуры.

---

АД СЭРЦА

## Мікалай ЦІХАНАЎ:

МНОГАЕ можна сказаць у слаўнае свята, ва ўсенародную ўрачыстасць, прысвечаную выдатнаму сыну беларускага народа, цудоўнаму песняру, народнаму паэту Беларусі, нашаму старому другу і саратніку Янку Купалу.

Кожнаму культурнаму савецкаму чалавеку цяпер вядомы яго творы, такія задушэўныя, шчырыя, праўдзівыя, глыбокія. Ён дзяліў з народам усе яго выпрабаванні, усе яго няшчасці і радасці, ведаў і цяжкую долю селяніна і беспрасветныя будні дарэвалюцыйных рабочых.

Ён стварыў з вялікай верай у будучыню песню барацьбы, песню, якая сцвярджае нянавісць да прыгнятальнікаў народа, песню свабоды. І калі прыйшлі дні народнай перамогі, і згінулі мінулыя часы прыгнёту і бяспраўя, талент Янкі Купалы расквітнеў яшчэ шырэй, голас яго стаў чутны на ўсёй прасторы Савецкага Саюза.

У гісторыі засталіся такія яго творы, як «Песні беззямельнага», вершы аб роднай вёсцы — «Сыходзіш, вёска, з яснай явы...», з'явіліся творы, якія ўслаўляюць новае жыццё, перабудову быту і чалавека. Мы чытаем «Алесю», «Над ракой Арэсай» і «Ад сэрца» з удзячнасцю і радасцю, таму што гэтыя творы народжаны пачуццём гордасці за лёс роднага народа.

Янку Купалу мы называем адным з заснавальнікаў беларускай літаратуры, чый песенны подзвіг назаўсёды застаўся ў памяці народа.

Я ніколі не забуду і гатоў зноў паўтараць расказ аб тым непаўторным дні, калі ўпершыню, у зімовым Ленінградзе, у маёй кватэры на Звярынскай вуліцы, адчыніліся дзверы і ў пакой увайшоў незнаёмы мне чалавек. Я адразу зразумеў па добрай усмешцы, што госць не зусім звычайны. Гэта быў Янка Купала. Я цяпер ужо не магу ўспомніць усіх падрабязнасцей доўгай, сяброўскай гутаркі, але ў памяці захоўваецца, жыве гэтае аблічча паэта, што так чытаў вершы, як можа чытаць толькі паэт, што так гаварыў аб лёсе народа, як можа гаварыць толькі чалавек, які выпакутаваў права на гэта.

Я сядзеў госцем і ў яго родным Мінску, у маленькім доміку, што дыхаў паэзіяй, народнымі казкамі і легендамі, песнямі і расказамі, на якія быў заўсёды схільны гаспадар — выдатны знаўца народнага жыцця. А як цудоўна ён спяваў старыя народныя песні!

І дзе б, у якой з далёкіх рэспублік нашых я ні быў, усюды знаходзіліся людзі, якія з пашанай гаварылі пра Янку Купалу, таму што заўсёды знаходзіўся паэт або пісьменнік, які ў свой час пабываў у яго ў гасцях і ганарыўся знаёмствам з гэтым цудоўным чалавекам.

Ідуць гады. Пашыраюцца прасторы нашых дасягненняў. Расце новая змена, якая не ведала ў той жа Беларусі ні прыгнёту царскага часу, ні страшных год фашысцкага пекла.

Зусім іншыя мірныя пейзажы акружаюць маладых людзей у лясах і палях Беларусі. Квітнеюць гарады. І ў бліскучай сталіцы — Мінску, і ў перадавым сельскім калектыве, і на новым заводзе — усюды будуць праслаўляць імя Янкі Купалы, як выразніка народнай волі, песняра жыцця і славы свайго народа, песняра праўды і свабоды.

Многія, многія гады будзе жыць у нашых сэрцах слаўны Янка Купала і яго сумленнае, вялікае, мудрае паэтычнае слова!

г. Масква.

---

АД СЭРЦА АД СЭРЦА

## Іван ШАМЯКІН:

ШЧАСЛІВАЯ тая нацыя, якая нарадзіла хаця б аднаго вялікага паэта. Беларусы на працягу сваёй шматвяковай і шматпакутнай гісторыі не мелі гэтага шчасця. Але жыў народны паэтычны геній, жыў у песнях і казках, у няспыннай барацьбе за лепшую будучыню, за шчаслівую долю. Ён, гэты геній, акумуляваўся ў канкрэтных людзях. Прыйшлі паэты, якіх народ назваў вялікімі, прыйшлі адразу два — Янка Купала і Якуб Колас. Гэта сапраўды вялікае шчасце для нацыі. Сваёй паэзіяй, сваёй літаратурай беларусы атрымалі права заняць пачэснае месца сярод народаў, якія далі свету Пушкіна, Шаўчэнку, Руставелі, Міцкевіча, Гётэ, Байрана...

Галасы Янкі Купалы і Якуба Коласа загучалі тады, калі пасля стыхійных сялянскіх выступленняў на арэну сацыяльнай барацьбы выйшаў самы рэвалюцыйны клас — пралетарыят, калі рос і набіраў сілы авангард гэтага класа—партыя бальшавікоў, створаная Леніным.

Зусім натуральна, што паэты з народа, паэты, якія цалкам аддалі свой талент народу, выдатна ведалі яго душу і мары, у пажары і віхуры найвялікшай рэвалюцыі — сацыялістычнай—адразу і цвёрда сталі на адзіна правільны і шырокі шлях — служэнне народу, які перамог, служэнне партыі, якая вяла народы, што аб'ядналіся ў Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік, да новых перамог, да вышынь культуры і дабрабыту.

У гэтым шчасце народа, што нарадзіў паэтаў, і шчасце саміх Янкі Купалы і Якуба Коласа. Натхнёныя вялікімі ідэямі партыі, ідэямі дружбы і еднасці, яны стварылі такія ўзоры паэзіі, якія хвалявалі, заклікалі і ўздымалі не адных беларусаў. Галасы іх загучалі на ўвесь вялікі Савецкі Саюз, з трыбун цэнтральных газет, часопісаў, выдавецтваў, радыё, у перакладах на многія мовы.

Інтэрнацыянальную сутнасць творчасці вялікага нацыянальнага паэта асабліва варта падкрэсліць сёння, калі савецкія народы рыхтуюцца ўрачыста і радасна адзначыць 50-годдзе ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Мінула роўна трыццаць гадоў, як перастала біцца сэрца паэта, але слава Янкі Купалы няспынна расла і шырылася. Сёння паэзія яго — з'ява не толькі ўсесаюзная, але і сусветная, бо з года ў год расце колькасць перакладаў на многія мовы народаў свету.

Сёння палымяныя радкі народнага паэта Беларусі хвалююць гераічных байцоў В'етнама, сыноў Кубы, тысячы тысяч чытачоў братняй Балгарыі, Польшчы, ГДР, Чэхаславакіі.

90-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы набыло ў нас у рэспубліцы шырыню, змест і форму ўсенароднай урачыстасці. Аб гэтым сведчаць паведамленні з усіх куткоў Беларусі, з гарадоў і вёсак, з гігантаў індустрыі і калгасаў. На свята прыехалі прадстаўнікі ўсіх саюзных і некаторых аўтаномных рэспублік, яны прывезлі любоў і павагу да Янкі Купалы і да ўсяго гераічнага беларускага народа.

Выяўляючы волю народа, любоў да паэта, удзячнасць за яго неўміручую творчасць, Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі, урад БССР ажыццявілі такія мерапрыемствы па ўвекавечанні памяці народнага паэта, якія ў кожнага шчырага беларуса выклічуць захапленне і глыбокую радасць.

У Мінску будзе адкрыты велічны помнік Янку Купалу. На радзіме паэта ў Вязынцы будуецца цэлы мемарыяльны комплекс. Так ушаноўваць паэта могуць толькі ў краіне, дзе гаспадар — народ, які заўсёды свята захоўвае лепшыя здабыткі сваёй гісторыі і культуры.

Шчаслівы народ, які мае такіх паэтаў! Шчаслівыя паэты, што служаць сваім талентам народу, які здзяйсняе велічныя планы партыі Леніна!

## *Мікола НАГНІБЯДА:*

ЯНКА КУПАЛА... Якуб Колас...

Адразу перад табой паўстае цэлая краіна, яе народ, яго звычаі, подзвігі, культура і, вядома, паэзія. А толькі прыгадаеш Беларусь, і сярод многіх яе слаўных сыноў мінуўшчыны і сучаснасці ўзвышаюцца два баяны. Сапраўды, не аддзяліць ад беларускага народа песняроў, ім жа народжаных, услаўленых і ўвекавечаных. Не многім наканавана такая пашана, памяць і любоў народная. Але ж і не многім паэтам удавалася так глыбока ўвайсці ў свет жыцця народнага, пранікнуцца яго духам, паэтычным светапоглядам і аддаць усяго сябе барацьбе за шчасце народа.

Максім Горкі, разумеючы гэтае адзінства беларускіх песняроў са сваім краем, яшчэ даўно сказаў сваё ўсхваляванае высокае слова пра Янку Купалу і Якуба Коласа. А ў дзень трыццацігоддзя літаратурнай дзейнасці Янкі Купалы буравеснік рэвалюцыі, які ў свой час пераклаў Купалаў верш «А хто там ідзе?», прыслаў юбіляру тэлеграму:

«Сардэчнае прывітанне нястомнаму саратніку, паэту-рэвалюцыянеру...»

Нястомнасць натхнення, шырыня інтарэсаў, палымянасць і стойкасць у барацьбе за шчасце народа азараюць усю творчасць Янкі Купалы. Яна даўно ўжо стала славаю не толькі беларускай літаратуры, але і багаццем усіх народаў нашай Айчыны, аздобаю славянскай паэзіі. Свет ведае Янку Купалу. А дзеці многіх народаў ужо з буквара, з чытанак знаёмяцца з паэзіяй выдатнага беларуса.

Янку Купалу шануе і любіць Украіна. Не аднойчы і не двойчы выдаваліся ў нас яго кнігі. Мы з удзячнасцю чытаем вершы і паэмы, прысвечаныя нашай зямлі, нашаму народу і яго генію Тарасу Шаўчэнку.

Янка Купала сардэчна любіў Украіну. Ён быў у нас у гасцях. Яго слухалі Кіеў, Харкаў, Запарожжа, Канеў, Крым...

Я меў шчасце сустрэцца з Іванам Дамінікавічам у Харкаве. Ён вяртаўся з поўдня і спыніўся ў Тэрэня Масэнкі. Падвечар гаспадар запрасіў нас — групу маладых паэтаў — на спатканне з Янкам Купалам. Вялікі беларус сустрэў нас ветліва і проста. І літаральна праз некалькі хвілін размовы мы адчулі яго шчырасць і непрыхаваную зацікаўленасць літаратурнаю моладдзю Украіны. Менавіта пра яе на пачатку гутаркі распытваў госць. А потым, усміхаючыся нам, запытаў:

— А, можа, вы пачытаеце свае вершы? Кожны па некалькі вершаў?.. Згода?..

Мы добрую гадзіну частавалі госця сваёй паэзіяй. Ён слухаў уважліва, прыплюшчыўшы свае журботныя вочы.

Памятаю, як хораша тады складвалася гаворка. Янка Купала не раз прыгадваў Тараса Шаўчэнку — з пяшчотнасцю і глыбокай пашанай, як удзячны вучань найдаражэйшага свайго настаўніка. Госць прачытаў нам некалькі сваіх перакладаў з Кабзара. Яны ўразілі нас дакладнасцю карцін і полымем шаўчэнкаўскага слова, пералітага ў слова беларускае. Да глыбокай ночы мы слухалі вершы Янкі Купалы...

Перада мной паўставалі вобразы палешукоў, зялёная зямля Беларусі з азёрамі і лугамі, з непраходнымі пушчамі. І ўсё бачылася так маляўніча і яскрава, нібыта я ўспамінаў ужо знаёмае, нібыта ішоў пройдзенымі ўжо дарогамі... Хоць да таго не быў на зямлі Янкі Купалы.

Гэтую чароўную маляўнічасць і празрыстасць купалаўскага верша я адчуў яшчэ глыбей, калі пасля ад'езду дарагога госця пачаў перакладаць яго вершы для тома выбраных твораў. Гэтая кніга стала першым выданнем Янкі Купалы на Украіне.

Усхваляваным лістом-падзякаю адгукнуўся паэт на выхад гэтай кнігі...

А неўзабаве паэзія Янкі Купалы паклікала мяне ў дарогу. Я праплыў на лодцы па Дняпры праз усю Беларусь. Пабыў у многіх вёсках і гарадах, любаваўся харастовам прыроды, наслухаўся песень беларускіх... І зноў жа ў вандроўцы не пакідала мяне пачуццё даўняга знаёмства з гэтым краем, даўняй дружбы і любві да Беларусі... Такое моцнае было чарадзейства паэзіі Янкі Купалы.

Я згадаў пра гэта сёння, упэўнены, што многіх, многіх людзей падружыла з беларусамі песня Купалы.

Душа паэзіі Янкі Купалы — у народнасці і перш за ўсё — у пастаноўцы праблем, якія хвалявалі не групу людзей, а мільёны працоўнага люду. А адсюль — і форма, стыль, мова — усё невычэрпна разнастайнае багацце Купалы, якое ён падарыў людзям для барацьбы за шчасце працаўніка, для ўзбагачэння яго культуры, эстэтычных поглядаў. І так — ад першага верша аж да апошняга, недаспяванага...

Паэзія і жыццё Купалы — творчы подзвіг любві і адданасці роднаму народу. Яны сталі вялікім прыкладам і школай для літаратараў многіх пакаленняў і не толькі Беларусі.

Незабыўны Максім Рыльскі назваў свайго пабраціма паэтам-рыцарам. Менавіта такім ён жыве ў сваіх творах, у памяці народаў. Рыцар паэзіі. Такім ён жыве і ў абдымках Украіны.

г. Кіеў.

## *Канстанцыя БУЙЛО:*

**О не, ты не памёр! Не мог бы з гэткай сілай**
**Твой голас хваляваць, бо ўсё ж маўчаць магілы...**
**А песні гук тваёй, што навакол плыве,**
**Нам кажа: з намі ты, ты тут, між нас жывеш!**
**Ты не памёр, о не! Мы помнім, як бывала**
**Твая жалейка нам змагання марш іграла,**
**І мы змагаліся, каб надышоў той дзень,**
**Калі не быць ні ўціску, ні бядзе.**
**І мы прыйшлі да яснай мэты гэтай.**
**Усю сілу звонкую Народнага паэта**
**Аддаў «ад сэрца» ты радзімае зямлі —**
**І нашы дзеі так багата расцвілі...**
**О не, ты не памрэш, не змоўкнеш ты, Купала!**
**Радзіма узняла цябе, ушанавала,—**
**Жыве паэзіі вясновы крыгаход!**
**Ты ад народа, і ты сам—народ.**

АД СЭРЦА АД СЭРЦА АД СЭРЦА АД СЭРЦА


1926 г.


1928 г.


1929 г.


1936 г.


1939 г.

# ЧАЛАВЕЦТВУ

ляючы сапраўды нацыянальныя інтарэсы народа, яго гістарычныя задачы, літаратура можа стаць упоравень з векам і ўзбагаціць чалавецтва сваімі мастацкімі каштоўнасцямі.

Чым большы паэт, чым паўней і глыбей раскрывае ён аблічча нацыі, тым большае значэнне мае яго дзейнасць для чалавецтва, тым большы яго ўклад у агульначалавечую скарбніцу культуры.

Купала — паэт, які для ўсяго свету «адкрыў» беларускі народ, яго духоўны свет, нацыянальны характар, найбольш ярка ўвасобіў яго культуру, і таму яго творчасць заключае ў сабе глыбокі агульначалавечы змест. І гэтым тлумачыцца няўхільнае ўзрастанне на працягу апошняга паўстагоддзя яе міжнароднага аўтарытэту і значэння.

Мы часамі забываем, што не толькі Багдановіч, але і Купала звяртаўся да старых класічных форм (напрыклад, у ранні перыяд «Спроба актавы»), што ён стварыў цудоўныя санеты («Жніво», «На суд», «Чаму?», «Маё цярпенне», «Бацькаўшчына»), якія можна паставіць побач з лепшымі творамі гэтага жанру ў сусветнай паэзіі.

Купалаўская паэзія ўбірае ў сябе не толькі сацыяльны пафас, але і лірыку прыроды, і самыя інтымныя чалавечыя перажыванні. Ці мала знойдзецца ў Купалы твораў, дзе ставяцца хвалюючыя пытанні людскога лёсу, сэнсу жыцця, кахання і дружбы, творчасці, барацьбы за чалавечае шчасце.

Купала — выразнік рэвалюцыйна-дэмакратычных імкненняў народа — стварае высокія ўзоры натхнёнай палітычнай лірыкі, накіраванай супраць прыгнятальнікаў народа. У яго палітычных вершах на ўсю моц гучыць трыбунны голас паэта-грамадзяніна. А побач з гэтым ён піша творы, дзе ўсё глыбей пранікае ў сферы інтэлектуальныя і маральна-этычныя. У сваёй філасофскай лірыцы Купала паўстае як паэт не толькі патрыятычнай тэмы, але і глыбокіх філасофскіх роздумаў аб трагічным лёсе чалавека. І тут з найбольшай сілай выяўляецца яго майстэрства перадаваць найтанчэйшыя адценні пачуцця, «дыялектыку душы», рух чалавечай думкі.

Прыгадайце хоць бы вершы «Нашто?», «Па шляху», «Вечар», «Песняй толькі», «За свабоду сваю», «Мая вера». Усе яны кранаюць сваім багатым філасофскім зместам. Паэт пяе хвалу чалавеку, яго ўсемагутнаму розуму, таму, што прачытаў зорную кнігу прыроды, але хто яшчэ бяссільны перад «голасам духу начэй». Якім нязначным, мізэрным здаецца паэту яго цярпенне перад мукамі мільёнаў, і ўсё ж яно бязмежна, таму што ў ім адбіваюцца пакуты чалавецтва.

Купала адчувае сябе мільённай часцінкай Радзімы, і гэта не перашкаджае яму абвясціць:

**Я сын зямлі, і сонца вольны сын!**

Ні адзін беларускі паэт не раскрыў так магутна і так маштабна імкненне чалавека да свабоды, як Купала. З якой рамантычнай узнёсласцю, з якой акрыленасцю паэтычнай думкі выявіў ён сваю запаветную мару, сваё паэтычнае крэда: служыць чалавеку, яго шчасцю на зямлі:

**Сонца ўзяўшы агністае ў рукі,**
**Што гарыць над бязмерам палёў,**
**Я на млечным тым шляху без мукі**
**Чалавека да шчасця бы вёў.**
(«Песняй толькі»).

Мы па справядлівасці лічым верш Янкі Купалы « А хто там ідзе?» нацыянальным гімнам беларусаў на этапе буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі, таму што зместам яго з'яўляецца ідэя сацыяльнага і нацыянальнага вызвалення, але яна набывае тут глыбокі агульначалавечы сэнс, сцвярджаецца як права народа «людзьмі звацца». Не выпадкова М. Горкі падкрэсліваў гуманістычны пафас гэтага верша, а Людас Гіра назваў яго жамчужынай сусветнай паэзіі, адным з найпрыгажэйшых гімнаў адраджэння чалавецтва.

«Адвечная песня» — твор пра мужычае жыццё. Але, якая шырыня погляду, які маштаб паэтычнай думкі. Доля селяніна, трагедыя яго лёсу ўзнімаецца тут на ступень агульначалавечай праблемы. Пафас услаўлення чалавека, яго стваральнай сілы складае жывую душу гэтай глыбока гуманістычнай паэмы, прасякнутай непрымірымымі адносінамі да варожага імкненням чалавека грамадскага ладу.

А паэма «Курган»? Хіба можна звесці змест гэтага класічнага твора да вузка нацыянальнай тэматыкі? Не, зусім не. Ідэя паэмы нацыянальная і ў той жа час агульначалавечая, звязаная не толькі з фальклорнай, але і сусветнай літаратурнай традыцыяй.

Паэзія Купалы прасякнута рэвалюцыйна-вызваленчымі, інтэрнацыянальнымі матывамі. Паэт заклікаў працоўныя масы да адзінства ў барацьбе супраць царызму. Праз усю дакастрычніцкую творчасць ён пранёс ідэю барацьбы за народнае шчасце. Ён хацеў бачыць сваю радзіму свабоднай,

**У роўнай волі, ў роўным стане,**
**Між усіх народаў.**

Пасля Кастрычніка Купала стаў песняром сацыялістычнага брацтва і дружбы народаў. У хвалюючых вершах, поўных высокага грамадзянскага пафасу, ён услаўляў усенароднае, усечалавечае шчасце камунізма. У савецкую эпоху на аснове сацыялістычнай ідэйнасці паглыбіўся і ўзбагаціўся агульначалавечы, інтэрнацыянальны змест Купалавай паэзіі, узрасло ўсесаюзнае, а тым самым і міжнароднае яе значэнне.











## З калейдаскопа паэтава жыцця









# НЕВЫЧЭРПНЫ...

З НАРОДНЫМ ПАЭТАМ кінематаграфісты пры яго жыцці вялі толькі перагаворы: маўляў, было б добра экранізаваць «Паўлінку» ці які другі твор. Самога яго здымалі дакументалісты ў розныя гады, але недаравальна мала. Ды і гэтыя лічаныя кінасюжэты не ўсе захаваліся...

Кінаакцёры Павел Ражыцкі і Сцяпан Барысаў успаміналі, што Купала ў снежні 1926 года прысутнічаў на прэм'еры першага беларускага мастацкага фільма «Лясная быль», пастаўленага па аповесці Міхася Чарота. У гэты ж дзень на прыёме з выпадку прэм'еры яго бачылі разам з першым беларускім кінарэжысёрам Юрыем Тарычам. Кінаактрыса Галіна Краўчанка сцвярджае, што яны гаварылі аб нейкай сумеснай рабоце.

На рэпетыцыях і ў вольны час паміж здымкамі мастацкага фільма «Да заўтра» (1929 год) — аб рэвалюцыйнай барацьбе моладзі Заходняй Беларусі — Ю. Тарыч праз вершы Я. Купалы знаёміў маскоўскіх і ленінградскіх артыстаў з жыццём Беларусі. Былы драматычны акцёр Тарыч тады бліскуча напамяць чытаў Купалу. Аб гэтым добра помніць заслужаны артыст РСФСР Георгій Самойлаў з Акадэмічнага тэатра імя Пушкіна ў Ленінградзе. З таго далёкага часу жыве ў ім вялікая павага да Беларусі, яе мовы і літаратуры...

У ліпені 1933 года, калі Купала знаходзіўся ў Ленінградзе, Асацыяцыя работнікаў рэвалюцыйнай кінематаграфіі і дырэкцыя Ленінградскай студыі «Савецкая Беларусь» арганізавалі сустрэчу паэта з рэжысёрамі, сцэнарыстамі, рэдактарамі і іншымі творчымі работнікамі. Купала расказваў кінематаграфістам пра свае ўражанні ад наведання заводаў, тэатраў, ад гутарак з жыхарамі горада Леніна, у якім ён да рэвалюцыі працаваў, вучыўся, пісаў свае першыя творы.

Пасля сустрэчы на стомленага Купалу навялі шматлікія асвятляльныя прыборы, нацэлілі кінакамеру, уключылі гуказапісваючы апарат і папрасілі прачытаць урывак з новай паэмы «Над ракой Арэсай». Недзе ёсць гэтая стужка. Але дзе? Можа, хто ведае?

Як паведаміла «Літаратура і мастацтва» 28 ліпеня 1933 года, Я. Купала даў у той дзень кінематаграфістам таварыскае абяцанне выступіць з лістом да пісьменнікаў БССР і заклікаць іх дапамагчы ў стварэнні савецкай кінематаграфіі.

Сам паэт у інтэрв'ю, якое змешчана ў «Литературной газете» 10 лютага 1939 года, паведамляе: «Працую і над сцэнарыем кінакарціны па сваёй паэме «Над ракой Арэсай». На жаль, фільма не знялі. І кінасцэнарый паэта недзе загінуў у час вайны.

«...Не памятаю зараз дакладна, — расказвае заслужаны дзеяч мастацтваў БССР рэжысёр-аператар Уладзімір Цяслюк, — у якім гэта годзе было, але я з аператарам Мікалаем Стрэшневым здымаў Янку Купалу дома. У той дзень да песняра прыйшлі Л. Александроўская, І. Любан павіншаваць ці то з юбілеем, ці то ў сувязі з узнагароджаннем ордэнам Леніна. Мы так-сама яго павіншавалі і пачалі ўсталёўваць апаратуру. Мне давялося здымаць Купалу яшчэ на Мінскім вакзале, калі ён сустракаў пісьменнікаў з братніх рэспублік. Памятаю яго заўсёды сціплым, хлебасольным, прыветлівым, хоць дакучалі мы яму страшэнна. Па просьбе Уладзіславы Францаўцы давялося здымаць адкрыццё музея ў Вязынцы...».

Маскоўскія кінааператары здымалі Купалу з М. Горкім на пасяджэннях І з'езда Саюза савецкіх пісьменнікаў, з А. Талстым, знялі выступленне на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 80-годдзю з дня нараджэння Шолам-Алейхема. Украінскія кінематаграфісты — у Харкаве на адкрыцці помніка Т. Шаўчэнку (сакавік 1935 года), латышскія — чэрвені 1941 года на І з'ездзе пісьменнікаў Латвійскай ССР.

«...Купала, мне здаецца, адносіўся да кіно ці з ірoніяй, ці нейкай добрай бояззю, — успамінае заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі кінарэжысёр І. Шульман. — Так глядзелі на новы від мастацтва многія пісьменнікі. Але ў той жа час паэт разумеў, што дзякуючы экрану можна размаўляць з мільёнамі. І значыць трэба для яго працаваць. Я сустрэўся з ім у 1940 годзе, прасіў, каб даў згоду экранізаваць «Паўлінку». Але ж хутка пачалася вайна».

Фільм-спектакль «Паўлінка» быў створаны ў 1952 годзе. Ён зрабіў галоўнае: пазнаёміў мільёны савецкіх і замежных гледачоў з выдатнымі беларускімі акцёрамі, з класічнай нацыянальнай камедыяй.

Цяпер, праз 20 год, зноў з'явілася патрэба ў новай экранізацыі «Паўлінкі». Сцэнарый мастацкага музычнага каляровага тэлевізійнага фільма па матывах п'есы стварыў А. Макаёнак, рэжысёр карціны — Ю. Цвяткоў.

Купалаўская паэма «Магіла льва» дала матэрыял для стварэння новага беларускага мастацкага фільма з такой жа назвай (сцэнарыст Ю. Лакербай, рэжысёр В. Рубінчык, аператар Ю. Марухін, мастак Я. Ігнацьеў). Паэма вызначыла мастацкае гучанне кінатвора, жывіць яго сваім духам...

Першая дакументальная біяграфічная кінастужка пра паэта была створана да 80-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы. Зараз здымачная група (сцэнарыст А. Вялюгін, рэжысёр В. Дашук, аператар Г. Масальскі, кампазітар А. Янчанка) закончылі работу над кінапаэмай, прысвечанай песняру, — «А зязюлька кукавала»...

— Мы ва ўсім кіраваліся купалаўскімі творамі, — гаворыць В. Дашук, — і праз іх стараліся паказаць аблічча народнага паэта. У фільме слова даецца самому Купалу — яго паэзіі, публіцыстыцы, лістам. Надзвычай цяжка і радасна было працаваць...

І ўсё ж тое, што дагэтуль створана для самага масавага мастацтва — кіно і тэлебачання — пра класіка беларускай літаратуры, гэта далёка не ўвесь Купала. Яго жыцця і творчасці хопіць не на адзін фільм. Бо ў людзей заўсёды будзе патрэба «слухаць» песняра. Бо Купала — невычэрпны...

І. РЭЗНІК.

---

стэрства, каб перадаць не толькі знешняе падабенства, але і тыя ўражанні, якія ў мяне склаліся за многія гады знаёмства з паэтам... Памятаю, я сустрэў неяк летам сорак другога Купалу на лесвіцы ў гасцініцы «Масква». Ён быў сумнаваты. Падышоў да мяне, абняў і сказаў: «Прыедзем у Мінск, плошчаў будзе многа, і помнікаў трэба будзе рабіць шмат». «Хутчэй бы прыехаць!» — кажу. «Не так проста, — задумліва адказаў Купала. — Не спяшайся, прыедзем абавязкова». — І, падумаўшы, параіў: «Ужо цяпер ты можаш рыхтавацца да гэтай работы. Многа будзе спраў. У гэтым выпрабаванні нарадзілася столькі герояў, што табе на ўсё жыццё хопіць працы».

Бронзавы Купала ў зялёнай засені... Шуміць, гамоніць, ззяе вокнамі высозных святліц сталіца.

Ажывае бронза ў засені... задуменны, з мяккай усмешкай Янка Купала: «Цяпер беларускай я песні ўладар... Мне бацькаўшчынай цэлы свет...».

Раніца на возеры. Сонца йграе. То разбягаецца сонца, распадаецца на некалькі сонцаў. То злучаюцца сонцы ў адно сонца... «Пакінуў ён нас на Купалле»... Блішча возера. Гэта Лукомль, беларускае Лукамор'е. Рана сонца йграе на добрыя годы, на цёплыя росы, на буйное жыта. Жыта падышло да вокан юнага горада, дзе столькі песень, смеху... Дзе нават кінатэатр называецца «Электронам».

З усмешкай мы жыццю глядзім у вочы —
Судзіла доля шчасце на вяку, —
Збіраем кветкі папараці ўночы,
Днём з ясным сонцам ходзім пад руку.

На шыракашумнай галоўнай магістралі сталіцы плыве паціху бронзавы Купала, плыве на месца сталай прапіскі да сваёй хаты ў зялёным парку. Некалі везлі цвярской дарогай на доўгіх санкахразвалках, дванаццаць коней цугам, з Санкт-Пецярбурга ў Маскву на Цвярскі бульвар бронзавага, заінелага на лютым марозе Пушкіна. На лютым марозе...

А сёння лета, пагоднае аблічча Купалы ў сонечных блісках. Паэт усміхаецца сонцу і людзям, і ясны воблік яго люструецца ў сініх завадзях высокіх вокан. «Абавязкова стаў бы мулярам, калі б не быў паэтам і можна было б хоць крыху скінуць год. Я кожны дзень думаю, як будзем мы ісці зноў па Беларусі. Я часта бачу ў сне вясковыя вуліцы, усыпаныя свежымі трэскамі, новыя дамы ў спаленых гарадах...»

Як успамін — трымціць на галінцы яблыні самотны лісточак, толькі адзін. Займаецца агнём чорная крона дрэва...

Як белакіпеннае воблака, стаіць у багатым цвеце яблыня, асвятліўшы шэрую раллю.

Гнуцца долу галіны пад цяжарам белых, налітых сонцам яблыкаў. Тысячы сонцаў...

За ўсё, што сёння маю,
Што даў мне мой народ:
За кут у родным краю,
За хлеб-соль без клапот, —
Я адплаціў народу,
Чым моц мая магла:
Зваў з путаў на свабоду,
Зваў з цемры да святла.

Яблыня аддаляецца, выпростваюцца галіны, і мы бачым:

уся зямля ўсеяна белымі-белымі яблыкамі-

Генрых ДАЛІДОВІЧ

# СУСТРЭЧА

АПАВЯДАННЕ

**Гэтым жніўнем спаўняецца 60 гадоў з часу першага спаткання заснавальнікаў сучаснай беларускай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа ў цяпер славутай Смольні.**

**...і што мы сёння маем такую літаратуру, культуру, што цяперашняя Беларусь — адна з яркіх зорак у сузор'і савецкіх рэспублік, вялікае значэнне мела і тая даўняя першая сустрэча вялікіх нашых пісьменнікаў, як і іх уся багатая і плённая літаратурная і грамадская дзейнасць.**

**Сустрэчы 1912 г. і прысвечана гэта апавяданне.**

**Аўтар.**

*Прысвячаецца памяці Янкі Купалы і Якуба Коласа.*

СТАРЫ ПАРАВОЗ, сапучы і пускаючы клубы гаркаватага белага дыму, цяжка дачухкаў да станцыі, моцна і раптоўна тармазнуў, лязгнуў жалезам.

Пасажыры, якія паспелі нагаварыцца, паспаць, стаміцца за дарогу, даўно ўжо чакалі гэтае хвіліны, пабралі цяпер свае валізкі, сумкі, клункі і падаліся да дзвярэй. Апошнім улегцы выходзіў з вагона малады, прыгожы, з моднай прычоскай і вусікамі мужчына.

Ён паволі на выйшаў на перон, з цікавасцю агледзеўся, абышоў двух вусатых стрэлачнікаў, што горача дзяліліся нейкімі сваімі навінамі, і падаўся следам за пажылымі цёткамі. Угнуўшыся, яны неслі за плячыма цяжкія сумкі з гарадскім хлебам, мукою, крупамі.

Мястэчка падалося маленькім, пабітым на вузенькія агароды, цёмным і ціхім.

«Стоўбцы! — падумаў малады мужчына. — Дык вось вы якія! Не дзіўна, што вас ніхто не ведае, у каго я толькі пра вас ні пытаўся».

На маленькай пыльнай местачковай плошчы старыя кабеты прадавалі агуркі, цыбулю, ля іх стаялі пасажыры, таргаваліся, побач балаголы — плячыстыя хмурыя дзядзькі — сядзелі на вазах, трымалі лейцы ў руках, смалілі цыгаркі і ляніва, размораныя ад сонца, паглядалі, што рабілася вакол. Відаць, яны лічылі сябе тут важнымі людзьмі, ганарыліся, што да іх падыходзілі добра апранутыя мужчыны і кабеты, прасілі падвезці ў тое ці іншае месца. Балаголы не спяшаліся згаджацца, цярпліва вырывалі большую плату; дабіўшыся свайго, памагалі «кліентам» садзіцца на вазок, цмокалі на коней, сцёбалі іх доўгай пугай і, крануўшыся з месца, гучна тарахцелі коламі па бруку праз усё мястэчка.

«Мусіць, мне давядзецца адмовіцца ад гэтай раскошы, — падумаў малады мужчына, — і не таму, што не люблю праехацца на конях... У мяне засталося столькі грошай, каб толькі заплаціць за білет і вярнуцца адсюль назад дадому. Прыйдзецца цяпер ісці пехатою. Божа, ты мой божа, калі ўжо буду мець я якія грошы?»

Важна і ганарліва, як заможны панок, выйшаў з-за вугла бліжэйшага дома вусаты нізкарослы паліцэйскі, на тратуары спыніўся, выцер хустачкай спацелы лоб, тоўстыя губы і бараду, відаць, недзе глынуў куфаль піва або гарэлкі і выплыў на вуліцу «исполнять свои служебные обязанности».

«Можа, у яго запытацца, як дайсці да Мікалаеўшчыны? Але не, лепш з ім не знацца, — падумаў малады чалавек. — Пачне яшчэ дапытвацца: куды, да каго я іду і сам хто такі? Лепш спытаю ў людзей». Ён падышоў да адной старэнькай, змучанай гадамі і жыццём, учарнелай ад работы бабулі і запытаў:

— Вы не скажаце, як мне прайсці да Смольні?

Старая паглядзела на яго, на паношаны, але чысты, выпрасаваны, не такі ўжо танны, «панскі» гарнітур, на белую свежую кашулю, на модны гальштук, на плашч, што ляжаў, згорнуты на яго руцэ, і сказала:

— Вы, пане, каляску найміце, балаголы ведаюць, як завезці. Пехатою вам дасца ісці. Гэта нашы мужыцкія ногі трывушчыя і вялікія дарогі любяць.

— Хворы я, не магу на калясцы трэсціся, хачу сваёю хадою зайсці, ды люблю вельмі пешкам хадзіць, — хітравата ўсміхнуўся мужчына.

— Маладыя, а ўжо хворыя, — здзівілася старая, — калі не сакрэт, да каго вы хочаце трапіць?

— Да Міцкевіча Канстанціна.

— У Мікалаеўшчыне гэтых Міцкевічаў, панок, паўсяла.

— Ён настаўнік, піша вершы на тутэйшай мове, па-вашаму.

— А, пачакайце: гэта Васілёў Іван ды Міхалаў Кастусь — настаўнікі. Ну, Кастусь недзе далёка, туды пад Польшч, дзяцей вучыў і ў турме сядзеў за нешта. Кажуць, што ён піша, панам хоча быць.

— Вось гэтага «пана» мне і трэба ўбачыць.

Старая разгаварылася, сказала, што сама да замужжа жыла непадалёку Альбуці, добра ведала бацькоў і ўсю радню Кастуся — Міхала, Ганну, Антося, дзяцей старэйшых; расказала нават, як некалі перад смерцю Міхал адпусціў ёй колькі бярвенняў з панскага лесу, пасля падвяла крыху і паказала дарогу.

Мужчына падзякаваў і пайшоў паволі сваёю хадою. Старая ўскінула на плечы свой клунак і, не азіраючыся, таксама патупала сваёю сцежкай, здзівіўшыся, якімі цікавымі бываюць гэтыя вяльможныя, чысценькія паны: любяць для пацехі пяшком хадзіць, па лесе са стрэльбамі ды сабакамі гойсаюць і па-дзіцячы радуюцца, калі ўдасца падстрэліць зайца ці птушку якую... Але так, з усмешкай, могуць сцебануць бізуном, пацвельвацца з якога «мужыцкага» слова... Дзіўныя яны, гэтыя паны!

За надзеламі зжатага і яшчэ не кранутага сярпом жыта пачаўся лес — спачатку малады сасоннік, пыльны, парыты дзікамі, са скошанаю, відаць, яшчэ ў чэрвені ці ліпені травою, а цяпер ужо рыжаю, высахлаю сухадзяроўкаю. Затым за лагчынамі пачало цямнець і душнець — лес падняўся, пастарэў, стаяў высакаствольны, медны; ён засцілаў невысокае ўжо сонца, з-за яго амаль не было відаць высветленага вечаровага неба.

«Вось так, Янук. Янка Купала, — сказалася само сабою, — каб ты слухаўся пані Анджыеўскую, такіх разумных паноў Каломенскіх ці «адукаваную» мадам Русакову, пісаў па-польску ці па-руску, а не па-мужыцку, хваліў мілага царабацюхну, «бацькоўскія, законныя» парадкі яго, то, напэўна, меў бы гучнае імя, тытулы, грошы і ордэны, і паліцэйскія былі б самымі лепшымі калегамі ды сябрамі... Як яны любяць дыфірамбы, оды, гэтыя цары, царкі і царочкі, і ўсе вакол пішуць ва ўгоду, і як табе, Янук, праціўна ўсё гэта. І трэба не вельмі паказваць гэта, бо не ацярэбішся ад даносаў, праборак ды павучэнняў. Ой, божа, ты мой божа, як цяжка быць паэтам, ды яшчэ «мужыцкім»!

Янка Купала ішоў па вузкай, выезджанай калёсамі дарозе і думаў пра сябе. Потым прыгадалася, што напісаў ужо, як адгукнуліся пра гэта людзі, добрыя і нядобрыя, што трэба яшчэ напісаць.

Настрой быў добры. Зусім нядаўна, у чэрвені, паэт дапісаў «Паўлінку». І цяпер шчасліва, без вялікага гонару, але радасна падумаў, што яна не горшая за «Пінскую шляхту». Хіба ж гэта дрэнна? Цяпер і ён, і ўсе беларусы могуць ганарыцца, што маюць такія п'есы на сваёй мове... Цікава, як там, у Пецярбурзе, будзе з яго паэмай «Сон на кургане», з трэцім зборнікам вершаў «Шляхам жыцця», можа, болей ужо не будуць прыдзірацца і прымушаць папраўляць, як папраўляюць часта ў «Нашай ніве», а то баяцца і зусім нішчаць, не друкуюць...

І ў каторы раз думка — трэба ж яшчэ нешта напісаць, што задумалася новае, але ці хопіць часу? Ды і ведаў яшчэ малавата. А яго даўно мучыць і просіцца ў харошую паэму легенда пра ўкраінскую прыгажуню, яе няшчасную, як і жыццё ўсяго ўкраінскага, беларускага народаў, смерць ад лютага пана, што хацеў подла дабіцца яе любві. Даўно хочацца сказаць пра сваю сям'ю, суседзяў, іх вечную беднасць, цягу да сваёй зямлі. Але пра гэта цяжка расказаць у паэме, лепш, мусіць, будзе напісаць драму ў прозе. Ды і пра мужыкоў-дзівакоў, што пераблыталі сваіх жонак, даўно варта напісаць жартаўлівую п'есу, прыгодзіцца, можа, слаўнаму Ігнату Буйніцкаму, які паставіць яе і пацешыць людзей.

«Ды, божа мой, колькі ёсць чаго напісаць! — думаў Янка Купала. — Дай мне толькі добрую страху над галавой, каб не думаць, дзе ноч сустрэць, кавалак хлеба, каб не глытаць сліну, гледзячы на розных Каломенскіх ды Русаковых...»

Купала заўсёды моцна перажываў, што беларусы не маюць сваёй мовы, літаратуры, такія забітыя і пагарджаныя людзі, і ён спяшаўся хутчэй, каб сустрэцца з сваім аднадумцам і выліць сваю горыч. Падумалася, які гэты Колас, ці такі ён сялянскі, «мужыцкі», як уяўляецца па сваіх вершах, апавяданнях, па пісьмах?

Пачало цямнець. А лес гусцеў, гонка выносіўся верхавінамі, і не было яму канца. Акрамя лясных, птушыных, больш не чуваць было галасоў, і Купала ўважліва азіраўся, каб не заблудзіцца. У каго ж спытаць дарогу? Мо ў гэтых высокіх, з падсечкаю хвоек, пацямнелага чарнічніку з высахлымі ад сонца ягадамі?

Смактанула ў жываце, калі ўспомніў пра яду, так заныла, забалела душа па чорнай лусце хлеба, кусочку сала, што ён глытнуў сліну, не вытрымаў, нагнуўся, сабраў колькі ягадак і з радасцю з'еў, але голаду гэтым не сцішыў, а яшчэ больш распаліў.

«Што ж, прыйдзецца, відаць, заначаваць у чужым лесе, — падумаў Купала, — нідзе яму ні канца, ні краю не відно».

Сонца ўжо, відаць, зайшло: у лесе сцямнела, пачала брацца раса, — па-начному здаравець; была пара, блізкая да восені. Збоку тонка, ледзь чутна пацягнула вільгаццю, сырым пахам луга, сенам, рэдкім туманам.

«Ды гэта ж, відаць, Нёман, — узрадаваўся ён. — Колас пісаў, што Мікалаеўшчына стаіць на беразе гэтай ракі».

Купала прыкметна павесялеў, бадзёра збочыў з дарогі — раса пагусцела, акрапіла чаравікі; пах вады, асакі таксама пагусцеў — праз колькі хвілін паказаўся тут яшчэ зусім плыткі, спакойны, аброслы лазою ды алешнікам Нёман.

Купала пайшоў берагам, абыходзячы заплеслыя старыцы, густыя, непралазныя кусты лазы, убачыўшы спутаных коней, што спакойна скублі траву, здагадаўся, што блізка вёска, што ён не заблудзіўся.

...Смольня, здаецца, была такая, як яму і апісваў Колас. Спачатку Купала прыблукаў да Мікалаеўшчыны, распытаўся ў людзей і пайшоў па вузкай палявой сцежцы. Нават вечарам было відаць — лета ўжо збіралася адыходзіць: абкідвалася жоўтаю фарбаю, халаднела. Ля невысокай хаты яму насустрач выскачыў маленькі руды сабачка, кінуўся да ног, моцна і злосна забрахаў, але кідацца бліжэй баяўся. Калі Купала прыдумаў ужо, як адагнаць сабаку, з хаты выйшла пажылая жанчына, паклікала сабаку, махнула на яго галінаю — той сцяўся і шуснуў кудысьці за вугал, а жанчына падышла да варотцаў.

— Праходзьце, — сказала яна Купалу. — Наш сабака толькі палохае, а зачапіць баіцца.

— Добры вечар, — прывітаўся госць. — Скажыце, тут жыве Якуб Колас? — пасля паправіўся: — Міцкевічы тут жывуць?

— Тут, — адказала жанчына. — Добры вечар!

Запахла хлевам, сенам; Купала даўно не жыў у вёсцы, блытаўся па гарадах, але добра помніў усё вясковае і цяпер адразу адчуў, што гаспадары трымаюць карову, свіней, авечак; прайшоўшы бліжэй да хаты, ён убачыў за агародамі калёсы з сенам, відаць, яго нядаўна прывезлі і не паспелі скінуць.

Купала зайшоў за гаспадыняю ў хату, зажмурыўся ад святла газоўкі, што дыміла на прыпеку.

— Кастусь! — паклікала жанчына. — Да цябе тут прыйшлі. — У другой палавіне заскрыпела крэсла. Купала аж захваляваўся, не мог дачакацца, калі ўвойдзе Колас, не мог уявіць, як можа выглядаць чалавек, з якім ён так моцна пасябраваў па вершах ды пісьмах, але яшчэ не бачыў яго.

Дзверы скрыпнулі — і зайшоў не вельмі высокі, барадаты, з шырокім вялікім ілбом малады мужчына. Ён таксама пільна ўглядаўся. Пазнаў ці не пазнаў?

— Ну, здароў, Янка! — сказаў ён і працягнуў руку.

— Здароў, Якуб! — Купала моцна паціснуў дужую Коласаву руку, паглядзеў яму ў шыракаватыя вочы, і абодва паэты ўсміхнуліся, радасна падаліся і прыпалі адзін да аднаго, не зусім умела, але моцна пацалаваліся.

— Гэта ж, мама, Янка Купала, — сказаў пасля Колас.

Маці не назвалася, падышла і падала руку. Купала таксама падаў сваю, пасля схамянуўся і — пацалаваў. Жанчына разгубілася, відаць, не прывыкла да такога далікацтва; разгубіліся і мужчыны, разгублена пазыркалі вачыма па хаце. Першаю апамяталася гаспадыня, сказала: «Мяне завуць Ганнаю», — і запрасіла госця прысесці з дарогі.

— Вы ціха так пад'ехалі, што я і не чула, — сказала яна.

— Я пехатою са Стоўбцаў прытупаў.

— А, божа, ці нашых людзей, мікалаеўцаў, у мястэчку не было, — паспачувала гаспадыня. —



Я. ХАРЫТОНЕНКА. Сябры сустрэліся ўпершыню.

Але, праўда, вы ж нікога не ведаеце, вас не ведаюць. Трэ было балагола тады ўзяць.

— Хацеў прайсціся, — усміхнуўся Купала,— у вас тут так хораша, што аж зайздросна. Грэх не паглядзець такога харасства.

Колас усміхнуўся, але нічога не прамовіў, відаць, здагадаўся, што Купала хітрыць.

— Праўда, хораша ў нас,—сказала Коласава маці, — любяць у нас і паны бываць: павывальваюцца на беразе Нёмана, ляжаць, купаюцца, па лясах з сабакамі гойсаюць.

— Думаў, што заблуджуся, заначую ў лесе,— сказаў Купала.

— Забраліся во, ды дзе мы ні былі — у Акінчыцах, Сухоншчыне, Альбуці, — гаварыла гаспадыня.—цяжка жыць на свеце беззямельнікам.

— Мы таксама паездзілі па свеце,—сказаў Купала,—шукалі зямлі, лепшай долі.

— Бо не з багатай сям'і, мусіць?

— Не.

— Цяжка жыць, калі бедны. Наш бацька і памёр, а на гаспадарку сваю не ўзбіўся. — Маці Коласа прыбрала стол і пачала завіхацца ля печы. Колас маўчаў, толькі прыслухоўваўся да гутаркі; Купала, сказаўшы ўсё, што можна сказаць пры першым знаёмстве, таксама памаўчаў, абвёў позіркам сцены хаты, пасля зноў загаварыў:

— Маленькія вашы Стоўбцы.

— Маленькія, — адказаў Колас, апусціў вочы, і Купала зразумеў, што сябра яго не з гаваркіх, відаць, любіць больш прыслухоўвацца, разважаць з сабою. А ў пісьмах ды ў вершах Колас выдаваў кампанейскім, удумлівым чалавекам, які ва ўсім разбіраўся, умеў паразважаць, пасумаваць і тонка паджартаваць.

— Вы, можа, шчаслівейшыя па сваёй рабоце ды з вершыкамі сваімі?—спытала гаспадыня.— Бо як Костусь наш... — яна, мусіць, хацела сказаць пра арышт, тры гады турмы сына, але прамаўчала.

— Які там шчаслівейшы, цётка, — сказаў Купала, — часта таксама прыходзіцца сустракацца з паліцыяй, больш слухаць, чым гаварыць, ды і за кніжку першую ледзь не пасадзілі.

— Я цёмная, у вашым надта не разбіраюся, але як пачне мне расказваць Костусь, цяжкая справа ваша, дзеці. Не стаць вам панамі, не пажывяце вы па-чалавечы.

— Нічога, цётка, — сказаў Купала, — але хіба вам добра, што вас за чалавека не лічаць, а мову вашу — горшай, мужыцкай?

— Дзе ж яно добра, — згадзілася гаспадыня, — бацькі нашы так жылі, і мы жывём, вы ўжо вучоныя, узбіваліся б на лепшае.

— Мы не хочам такога «панства», — сказаў Купала, — мы дабіваемся, каб усе людзі роўнымі былі, і мова наша роўная сярод роўных была.

— Калі тое будзе, дзеткі. Я то, мусіць, не дажыву да той часіны.

— Дажывём, цёця. Калі не мы, то нашы дзеці. Але само гэта не зробіцца, трэба цяпер старацца і пацярпець часам крыху...

— Мне ад маці за настаўніцтва маё ды за вершы нямала чосу было, — азваўся, нарэшце, Колас.

— Я ж, дзіця маё, зла табе не жадаю, вучу, як трэба лепш жыць, не так, як мы пражылі і нічога добрага не ўбачылі, — адказала на гэта маці, — мы цябе з астатняга вучылі, цяпер ты вучоны, не маладзёнак ужо, глядзі сам. Я не раз пазайздрошчу Каплёнку, то ж дзяцей вучыць, але добра жыве, сам поп, ураднікі з ім за руку вітаюцца.

— Гэта настаўнік тутэйшы, —сказаў Колас,— такі падліза ўжо, халуй царскі і шпіён.

— Яго-то людзі, праўда, вельмі не любяць,— згадзілася маці, — але па-панску жыве... Але ж вы згаладаліся, мусіць, за дарогу, а я, такая спагадлівая, стаю тут і талкую сабе...

— Дык, прызнацца, прагаладаўся,—усміхнуўся Купала.

— Праўда, прабачце, сала свайго не маем, кончылі сенакосам,—гаварыла гаспадыня. Прынесла хлеб, агуркі, маленькі гліняны глячок: — Выпіце во, ды я зараз мёду наллю.

Колас моўчкі наліў па чарцы гарэлкі, падняў сваю, сказаў: — Ну, давай, Янка, за тое, што ты прыехаў сюды.

— За сустрэчу нашу, Якубе, — сказаў Купала, стукнуўся, але не выпіў, пачакаў гаспадыню, што вярнулася з місаю мёду, запрасіў выпіць яе.

Агуркі, і свежыя, і маласольныя, былі вельмі смачныя, і Купала ледзь стрымліваўся, каб не накінуцца на іх і не з'есці за якую хвіліну. Адразу зашумела ад гарэлкі ў галаве, і так было добра, што ён прыехаў сюды, сядзіць во за гэтым сталом, глядзіць на свайго сябра. Ён усміхаўся сабе, і яму з кожнай хвілінай рабілася лепш, весялей, так лёгка забывалася ўсё благое, і думалася толькі пра харошае.

Колас крыху прыкусіў і наліў яшчэ па адной чарцы.

— Дай, Кастусь, паесці чалавеку, — сказала маці, — вы ешце, Янка, агуркоў у нас хапае сёлета, дзякуй богу.

Колас не стаў прымушаць госця выпіць, узяў агурок і пачаў таксама есці.

«Негаваркі, як і наш селянін. Паглядае так разумна, вочы, здаецца, гавораць: «Я ўсё разумею, ведаю», — але сам маўчыць».

Маці прынесла яшчэ свежых агуркоў, палажыла іх на стол і палезла на печ. Купала і Колас засталіся, выпілі, і сама завязалася гаворка. І так было добра, што іх ніхто не чуе, не запісвае іх слоў сабе ў блакноцік, і можна сказаць, што думаеш, што набалела на душы, параіцца з сябрам, як жыць, рабіць далей.

Купала прачнуўся назаўтра позна ды і ад таго, што чуйна скрыпела крэсла; ён працёр сонныя вочы і ўсміхнуўся: Колас сядзеў босы на крэсле і, нізка апусціўшы галаву, хутка пісаў. Купала сам ведаў, што такое натхненне, калі пішаш і нічога не чуеш, не разумееш, не бачыш другога на свеце, калі хораша і так лёгка пішацца, і, калі адарвешся, зоймешся іншым — можа не быць ужо такой хвіліны, лёгкасці і спору. Таму Купала ляжаў і маўчаў, баяўся нават паварухнуцца, каб не скрыпнуць і не перабіць чужой думкі.

На двары голасна заскуголіў сабака, закудакталі, відаць, знёсшыся, куры, і ля акна прайшла маці, нешта несучы ў прыполе. Колас абярнуўся, убачыў Купалу, вінавата, нават неяк сарамліва паклаў на стол пяро і прывітаўся.

Купала ўсміхнуўся, устаў з пасцелі, памыўся; гаспадыні адказаў, што смачна і моцна спаў ноччу, нават ні адзін сон не прыбіўся. Паснедаўшы, Купала і Колас пайшлі пагуляць, паглядзець Смольню, схадзіць на Нёман, туды, дзе некалі адбыўся настаўніцкі з'езд.

— Дзе ты цяпер будзеш рабіць? — спытаў Купала.

— Мусіць, у Пінску, у трэцяй прыходскай школе, — адказаў Колас, — летась нікуды не хацелі браць без «свидетельства о благонадежности». Каб не Філіповіч, даўні сябра мой, дык туга мне прыйшлося б. Але, дзякуй богу, добра пісалася, напісаў пяць раздзелаў «Казак жыцця». Якраз няблага пішацца, задумалася многа, асабліва завабіў мяне Сымон-музыка, нават запусціў праз яго «Новую зямлю».

— Ну, а я закончу восеннюю свае курсы і, відаць, пайду ў «Нашу ніву»,— сказаў Купала,— працаваў я там у восьмым і дзевятым. Не вялікая гэта соладзь, але не хочацца выпускаць з рук такую газету. Яна б магла харошую службу саслужыць, вялікія сілы вакол сябе згрупаваць, многа што даць, каб не гэты Часовы камітэт па справах друку. Без яго ніводзін твор не пойдзе, такія тупіцы, зусім глухія да літаратуры людзі, Цяжкая ў іх рука...

— Ды хто нам толькі не шкодзіць, — сказаў Колас, — ведае хто ці не ведае, але вучыць, як хваліць «царя и отечество», душаць усё жывое...

Колас змоўк: наперадзе паказаўся малады, інтэлігентнага выгляду мужчына.

— Каплёнак, — шапнуў ён, — толькі ты не счэплівайся з ім, сволач ён, адразу данясе.

— Здравія жалаю, Канстанцін Міхайлавіч!— здалёку прывітаўся Каплёнак, сыценькі, з невялікім, але добра азначаным брушкам.

— Знаёмцеся, Янка Купала, — сказаў Колас.

— А, беларускі Шаўчэнка! — усклікнуў Каплёнак, мусіць, па прывычцы лісліва, дабрадушна ўсміхнуўся, падаў руку, прадэкламаваў:

*— А хто там ідзе, а хто там ідзе*
*У агромністай такой грамадзе?*
*— Беларусы.*

Стаяў, усміхаўся і чакаў, відаць, пахвалы свайму розуму, адукаванасці, але Колас і Купала прамаўчалі.

— Прыехалі пагасціць на радзіму Канстанціна Міхайлавіча ці рыхтуеце тут які пісьменніцкі з'езд?

— А вы гатовы прадухіліць «антигосударственное сборище»? — не выцерпеў і спакойна падкалоў Каплёнка Купала, хоць Колас неўпрыкмет і шчыпаў яго за руку, каб прамаўчаў лепш.

— Вы зневажаеце мяне, пан Купала, — пакрыўдзіўся Каплёнак. — Дарэмна. Я сам беларус і шчыры сябра беларусаў. Вы вось, я так лічу, два самыя вялікія таленавітыя беларускія паэты, стараецеся адрадзіць беларускую пісьмовасць, стварыць беларускую літаратуру, якой ніколі не было, і некаторыя думаюць, што яе і не будзе. Толькі дазвольце спытаць вас, пісьменнікаў: няўжо вы шчыра верыце, што яна калі-небудзь будзе, што і беларусы змогуць калі-небудзь падняцца як нацыя?

— Калі вы сапраўды наш шчыры сябра, то я скажу вам па вялікім сакрэце: верым і дабіваемся гэтага, — знарок таямніча адказаў Купала.

— Прашу не пакрыўдзіцца, пан Купала, — Каплёнак адводзіў вочы. — І многа беларусаў вас чытае, падтрымлівае?

— Гэта і ад вас залежыць. Навучыце народ чытаць, тады ўсе будуць нас ведаць.

— І вы лічыце, што ўсе беларусы хочуць беларускасці? — ледзь не пасміхоўваўся Каплёнак.

— Трэба не забіваць дарэшты гэтага пачуцця, а выхоўваць яго, даказваць, што і мы людзі, і мова наша як мова, — пачынаў ужо злавацца Купала.

— Прашу прабачэння. Вы — ўтапіст, і паэзія ваша, хоць і таленавітая, праз дваццаць ці трыццаць гадоў будзе вывучацца толькі этнографамі ды фалькларыстамі: агонь, які вы раздуваеце, хутка затухне, ды і ў вас саміх ненадоўга хопіць запалу. Я шчыры ваш сябар, але... векавую цемру цяжка рассеяць, народ страціў сваё імя!

— Народ не страціў сваё імя, ён толькі забыў яго, — сказаў Купала.

— Вам, канечне, крыўдна, што стараецеся, але што зробіш, пан Купала, калі такая рэчаіснасць, — нібы паспачуваў Каплёнак, пасля спытаў:

— Як ваша здароўе, Канстанцін Міхайлавіч?

— Дзякую, добра, — адказаў Колас.

— Маю чэсць, жадаю поспехаў на ніве беларускасці, — Каплёнак пакланіўся і адышоў.

— Ён штодня спраўляецца аб маім здароўі і перадае, мусіць, гэта ў паліцыю, — сказаў Колас, — нешта часта бачылі яго нашы людзі ў паліцэйскім участку.

— Відаць, што ён дрэнь, але ў адным ён мае рацыю: сапраўды цяжка нам, — сказаў Купала, — цёмны і забіты наш мужык, замучаны царом і панамі. Літоўцы ды ўкраінцы і то смялей неяк патрабуюць газет, кніг, школ на сваёй мове.

— Але абуджаецца і наша Беларусь, — сказаў Колас.

— Абудзіцца, — згадзіўся Купала, — крыніца не можа быць вякамі пад зямлёю, рана ці позна яна мусіць прабіцца.

— І мы паможам, — усміхнуўся Колас.

— Памагаем, — абняў сябра за плечы Купала, сціснуў іх.

Сябры выйшлі з луга на вузкую, зарослую калючай, сухой дзікаю травой сцяжынку і пайшлі поруч шырокай пыльнай дарогаю.

Міхась СТРАЛЬЦОЎ

# ДРАМА СЯМ'І ЗЯБЛІКАЎ

*«РАСКІДАНАЕ ГНЯЗДО» У АКАДЭМІЧНЫМ ТЭАТРЫ ІМЯ Я. КУПАЛЫ*

НЕЧАКАНА, знянацку (юбілей купалаўскі падагнаў?) — прэм'ера «Раскіданага гнязда» ў тэатры імя паэта.

...Знаёмы акцёр гаворыць нешта накшталт таго, што вось як гэта складана: кваліфікавана, па-новаму вытлумачыць такую рэч, як «Раскіданае гняздо», і тым часам не надта спадзявацца на поспех у гледача. Бо гэта ўсё ж «Раскіданае гняздо», а не «Паўлінка», і, маўляў, мы, спакушаныя ў сваёй справе, «асцеты» (іранічнае ад «эстэты») можам успрымаць і разумець усё не так, як звычайны глядач, і г. д.

Гаварыць пра поспех спектакля ці пра няўвагу да яго з боку гледача яшчэ, вядома, рана. Пакажа час. Зразумела адно: паставіць сёння, па-сённяшняму сцэнічна вытлумачыць драму Купалы — справа сапраўды складаная і амаль непазбежна наватарская, бо п'есе гэтай, у параўнанні з іншымі купалаўскімі, неяк дагэтуль не шанцавала, яна лічылася несцэнічнай, да таго ж дзіўнаватай па сваёй драматургічнай і ідэйнай канцэпцыі — «рэч у сабе» і ўсё тут.

**Драму ставіў у 1951 годзе Беларускі дзяржаўны тэатр імя Я. Коласа (рэжысёрам быў А. Скібнеўскі, галоўныя ролі выконвалі Ц. Сяргейчык, М. Звездачотаў, Е. Лагоўская, А. Шэлег, Л. Лічыніцар, афармляў спектакль Я. Нікалаеў). З цягам часу ўражанні ад той пастаноўкі адыходзяць у мінулае. Многае помніцца як сапраўды новае ў трактоўцы п'есы. Прыгадваецца артыкул П. Глебкі пра «Раскіданае гняздо» у Віцебску — «П'еса прачытаная па-новаму». Многае цяпер «гучыць» як спрэчнае.**

Рыгор Шкраба, даючы сваю, на мой погляд, пераканаўчую і слушную інтэрпрэтацыю асаблівасцей драматургіі купалаўскай п'есы, заначае, што ў ёй «...няма загадзя зададзенай сіметрыі: завязка — кульмінацыя — развязка. Пісьменнік малюе само жыццё, паказвае людзей, лёс якіх залежыць ад несправядлівых законаў. Сапраўды, якой логікай вы вытлумачыце, што сям'ю, якая даўно сплаціла пану за зямлю сваёй крывавай працай, выганяюць у бяздомны свет? Чаму, паводле якіх законаў малыя дзеці і старая хворая маці павінны надзець торбы і ісці ў свет жабраваць? Чаму Паніч не толькі не хоча хоць бы паспачуваць сям'і, якая з-за яго жорсткасці і нечалавечнасці страціла кармільца, але яшчэ плоціць чорнай няўдзячнасцю за чыстае каханне Зоські, плюе ў яе адкрытую і шчырую душу?»

Удала, вельмі ўдала падабраны ключык да п'есы. Сапраўды, адкуль гэтыя асіметрыя, алагізм? «Сіметрыі» (завязка — кульмінацыя — развязка) няма, і ўсё ж ёсць, ёсць яна, гэтая сіметрыя! Яна ў свядомым адчужэнні Купалы ад законаў «бытавой» псіхалогіі, у імкненні даследаваць механізм дабра і зла, залежнасць чалавека ад «несправядлівых законаў» — і гэтыя законы хоча разумець аўтар не толькі сацыяльна-адназначна, дэтэрміністычна, так сказаць, а шырэй, шыбаючы ў філасофскія прасцягі, у законы адвечнай барацьбы явы і мары, думкі і справы — у законы таго ж дабра і зла. Купалу ў дадзеным выпадку можна было б папракнуць у пэўным ірацыяналізме, але настолькі, наколькі ірацыянальным бывае часта само праяўленне дабра і зла.

А «сіметрыя» ёсць. Сіметрыя не ў сюжэце, а ў расстаноўцы персанажаў, кожны з якіх перш за ўсё носьбіт сваёй, жыццёва і па-філасофску важнай думкі. Філасофскае асэнсаванне жыцця — вось дзе нерв, вось дзе пафас аўтарскай канцэпцыі. Сацыяльна-псіхалагічная драма? Не, хутчэй сацыяльна-філасофская. Менавіта так. І так, мусіць, яе і іграць, і ставіць трэба.

Трэба аддаць належнае зноў жа Р. Шкрабу. Ён справядліва паставіў гэтую драму ў сувязь з паэтычнымі пошукамі Купалы, што выявіліся хоць бы ў драматычных паэмах «Адвечная песня», «Сон на кургане», у шматлікіх вершах, якія папярэднічалі з'яўленню п'есы.

**Нашы даследчыкі яшчэ да гэтага часу да крыўднага страхавіта ставяцца да праблематыкі купалаўскай творчасці, бачачы ў ёй, бадай, адзін толькі сацыяльны аспект, не жадаючы заўважаць і яе агульнаславянскага і агульначалавечага разам з тым пафасу. Не чуюць гамлетаўскага «быць або не быць?», што заўжды гучыць у Купалы, бо гаворка ідзе пра лёс нацыі і права беларусаў «людзьмі звацца». Купала дапытвае саму гісторыю і дапытвае чалавека, у дадзеным выпадку беларуса: а які ж ты сам, якая твая гісторыя, якое тваё духоўнае здароўе, ці здолееш ты супрацьстаяць тым, што «к новым цемрам кладкі мосцяць»? Гэта трагічнае пытанне, бо трагічнай была і тагачасная рачаіснасць, бо Купала думаў ад імя народа, але разам з тым не стоячы над ім, а сам разам з ім духоўна і сацыяльна пакутуючы, разам з народам «выціскаючы з сябе раба».**

Зло, як бы прадвырашанасць, пануюць над сям'ёй Зяблікаў. Як бы ўся Беларусь з яе лёсам сышлася ў гэтай хаце, у гэтым «гняздзе», якое злавесная, дэманічная рука хоча раскідаць. Як жыць, куды ісці, дзе шукаць праўды, якімі шляхамі шукаць яе, скарыцца або пратэставаць, адвечнае зло ці часовае яно, усемагутны чалавек ці чарвяк паўзучы? Вось як ставіць пытанне Купала. Вось як хацелася б бачыць прачытаным яго на сцэне.

«Сіметрыя». Старое і новае. Старац — стары Зяблік — ягоная жонка. Сымон — Зоська — Данілка. Свет пэўна падзелены нават у хаце. Сымон і Зоська — равеснікі Якіма Сарокі і Паўлінкі. Новае, што кранулася душы Паўлінкі і Сарокі, лунае і над імі. Але розныя абставіны, розныя аўтарскія задачы. Ісціна Старца і ісціна Невядомага. Прывідны свет Зоські і тэмпераментны, наскрозь жыццёвы свет Сымона. Думка пра «карыснасць» прыгожага, мастацтва, закладзеная ў вобразе Данілкі. А ці трэба яно, мастацтва, ці ўратуе яно? Збавенне ў чарах, у каханні, у «прыгожым»? Гэта — Зоська.

Як іграць такое? Як псіхалагічную драму? Наўрад. Мне здаецца, тэатр (рэжысёр Б. Луцэнка) зрабіў правільна, паставіўшы п'есу як сацыяльна-філасофскі роздум, як своеасаблівы дыялог на тэму: дзе праўда, дзе шчасце, як за іх змагацца? І роднасць драмы з купалаўскімі паэмамі і вершамі таксама адчута: нездарма ж іх, вершаў, у спектаклі так багата.

Увядзенне паэтычнага слова ў тканіну п'есы (рэжысёрскае, вядома) нам не здаецца спрэчным. Супраць такога прынцыпу пярэчыць цяжка. Вершы часта заваструюць, праясняюць Купалаву думку, акрамя хіба тых выпадкаў, дзе проста ілюструюць ці нават расслабляюць яе. Здараецца і такое, і тут пастаноўшчыкам трэба, як кажуць, трохі супыніць сябе.

Зразумела, што верш у вуснах Невядомага можа і павінен гучаць натуральна з выпадку той асаблівай, ідэйнай нагрузкі,

Аляксей ПЯТКЕВІЧ

# З АДЧУВАННЕМ НАРОДНАСЦІ

*«ПРЫМАКІ» ЯНКІ КУПАЛЫ НА СЦЭНЕ ГРОДЗЕНСКАГА АБЛАСНОГА ТЭАТРА*

КАМЕДЫЙНЫ жанр на гродзенскай абласной сцэне — не навіна. Можна нават сказаць, што камедыі ставяцца тут дужа часта. Але на гэты раз адбылася сустрэча не проста з чарговай камедыйнай п'есай, а з творам вялікага песняра Беларусі Янкі Купалы. І гэта — падзея ў тэатральным жыцці горада.

Паставіў «Прымакоў» рэжысёр В. Скарабагатаў, спектакль прысвечаны слаўнай юбілейнай даце — 90-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы.

Не будзем дакараць гродзенцаў за тое, што пайшлі па лёгкім, здавалася б, шляху — узяліся за аднаактовую, прытым «лёгкую» п'есу, не самую значную з п'ес Янкі Купалы. Спектакль на беларускай мове рыхтаваўся вельмі старанна, як своеасаблівы эксперымент, спроба (ранейшыя аналагічныя спробы практычных вынікаў не далі), задуманы быў як форма творчай вучобы моладзі і не ўключаўся першапачаткова ў рэпертуарны план. І вось асноўная праца закончана, спектакль выйшаў да гледача.

**Прэм'ера прайшла з вялікім поспехам. Даўно ў сценах Гродзенскага тэатра артысты не адчувалі такой удзячнасці гледача, такой бурнай і шчырай яго рэакцыі. Дзеянне, асабліва недзе з другой паловы спектакля, амаль няспынна суправаджалася апладысментамі. А ў канцы, на развітальны выхад акцёраў, зала наладзіла ім і пастаноўшчыку такую працяглую авацыю, ад якой яны, здаецца, крышку разгубіліся. Прыемна было бачыць, як прывычна дзяжурныя ў такім выпадку ўсмешкі на тварах выканаўцаў змяняліся збянтэжана шчаслівымі: надта ж не хацелі гледачы расставацца з героямі, што палюбіліся ім за гэты кароткі час. Поспеху «Прымакоў», вядома, вельмі паспрыяла і роднае слова, і камедыйна яркі літаратурны матэрыял, шчодры на народную дасціпнасць, этнаграфічную маляўнічасць.**

«Лёгкая» бытавая камедыя Янкі Купалы не такая ўжо і лёгкая для пастаноўкі, асабліва (як гэта ні дзіўна на першы погляд) у прафесійным тэатры. Аўтар назваў сваю п'есу «сцэнічным жартам», падкрэсліўшы, такім чынам, вадэвільную «несур'ёзнасць» самога жыццёвага здарэння, паказанага ў творы. Разам з тым мы разумеем, што гэта «несур'ёзнасць» — арганічная рыса народна-бытавога жыцця, уласцівасць народна-гумарыстычнага светаадчування. Таму пэўная наіўнасць сітуацый і характараў у п'есе апраўданая, але не можа ўспрымацца літаральна, ацэньвацца строга рацыянальнымі крытэрыямі. Вось гэтая народная непасрэднасць, сузіральнасць, нават пацешнасць аўтарскага адчування жыцця, што павінна ў многім дыктаваць танальнасць, стыль спектакля, з цяжкасцю ўлічваецца прафесіяналамі ці, дакладней, выканаўцамі, якія, так сказаць, запрафесіяналізаваліся, на якіх цісне інерцыя



Максім Кутас — арт. У. Мішчанчук.



Паланея — арт. Л. Юзафовіч.



Трахім Сініца — арт. М. Малахаў.

аналітычнай распрацоўкі матэрыялу.

У Гродне іграюць «Прымакоў» маладыя акцёры. І іх душэўная энергія, тэмперамент, павышаная эстэтычная чуйнасць удала скарыстоўваюцца і накіроўваюцца пастаноўшчыкам. В. Скарабагатаву, рэжысёру дастаткова вопытнаму, удалося ў цэлым перадаць і змест і дух купалавага вадэвіля.

Глядач добра адчувае на сцэне маральна-бытавую атмасферу жыцця старой вёскі, таго, у прыватнасці, моманту, калі празмерная даніна святкаванню сёмухі давяла герояў да вельмі кур'ёзных непрыемнасцей. Адзнака гэтай кур'ёзнасці, анекдатычнасці становішча праглядваецца і ў мастацкім афармленні спектакля. Гродзенцы тут пазбеглі, па-мойму, дзвюх магчымых крайнасцей. Яны адмовіліся ў афармленні і ад паэтычнай умоўнасці, падкрэсленай этнаграфічнай стылізацыі і ад строгай рэалістычнай праўдападобнасці. Ва ўсім — дэкарацыях, касцюмах, грыме — адчуваецца больш ці менш прадметная дакладнасць і разам з тым пэўная вадэвільная прыблізнасць гэтага сямейна-хатняга побыту. Калі, напрыклад, Кацярынка па загадзе маці бярэцца падмятаць хату, то яна карыстаецца вельмі рэальным венікам, але выконвае работу неяк аперэтачна-ўмоўна, прыпяваючы пры гэтым, укладваючы энергію ў прыпеўкі, а не ў работу. Калі паяўляюцца ў хаце Трахім Сініца з Паланеяй, то Трахім па вопратцы — самы звычайны селянін, але валачэ ў адной руцэ нешта бліскуча-меднае (ні то патэльню, ні то таз), прывязанае на дроце, у другой — абрыўкі тоўстай ільняной вяроўкі, што выдае адразу разгубленую мітуслівасць душэўнага стану героя. Такія дэталі па-свойму арганізуюць стыль спектакля.

**Музычнае афармленне В. Бурскага, які выкарыстаў гумарыстычна-лёгкія народныя мелодыі, добра «ўпісваецца» ў ход дзеянняў. Трэба толькі прызнаць, што выбар інструмента, на якім іграюць за сцэнай, не зусім удалы. Гучанне баяна па сваіх ладавых, народна-каларыстычных якасцях не вельмі арганічнае ў спектаклі. Сюды б скрыпку ды бубен (асабліва падчас скокаў), тым больш, што і ў аўтарскім тэксце Мацейка іграе на скрыпцы, а не на гармоніку, як у спектаклі.**

Жанравая спецыфіка купалавага народнага вадэвіля ўвогуле вытрымліваецца акцёрамі. Іграюць лёгка, жвава, заўзята, з нейкім вясёлым артыстычным смакам, у добрым дынамічным рытме. Праўда, усе гэтыя якасці выяўляюцца, на жаль, не адразу, а дзесьці з сярэдзіны спектакля, можа нават пазней, калі паяўляюцца на сцэне артысты М. Малахаў і Л. Юзафовіч (Трахім і Паланея). Яны стварылі натуральны камедыйны дуэт, які адразу становіцца ядром акцёрскага ансамбля. М. Малахаў і Л. Юзафовіч вельмі добра адчулі эмацыянальную лінію дзеяння, яго народна-бытавы вадэвільны тон. Кранае народная непасрэднасць, сакавітая каларытнасць іх герояў. Глядач нідзе не адчувае ў паводзінах акцёраў тэатральнасці, найгрышу, хоць яны смела карыстаюцца і гратэскам. Выканаўцы скрозь натуральныя — і калі Трахім і Паланея пакрыкваюць на дзяцей, і калі частуюцца за сталом, і калі зацягваюць тут жа народную песню (між іншым, уведзеную пастаноўшчыкам, і, думаецца, дарэчы, тым больш, што М. Малахаў і Л. Юзафовіч няблага спяваюць), і калі скачуць «Лявоніху». Менавіта ў гэтай сваёй натуральнасці яны па-сапраўднаму смешныя. Далейшае дзеянне на сцэне, у якое ўключаюцца ўжо ўсе іншыя персанажы, ідзе з гарачым камедыйным азартам, у зладжаным ансамблі.

Менш задавальняе першая палова спектакля. У. Мішчанчук і Л. Кучарэнка (Максім Кутас і Даміцэля) іграюць прафесійна, цікава. Аднак у пачатку ім не вельмі ўдаюцца вадэвільныя героі. Больш гэта датычыць У. Мішчанчука. Дарэчы сказаць, гродзенцы высока цэняць гэтага сапраўды здольнага рознапланавага маладога артыста. У. Мішчанчук і ў ролі Кутаса вынаходлівы і арыгінальны, ён вышуквае яркія выяўленчыя дэталі, ствараючы багаты псіхалагічна-бытавы малюнак свайго героя. І ўсё ж яго Максім Кутас выглядае досыць драматычна сур'ёзным.

Герой перш за ўсё (асабліва ў пачатковым маналогу) здзіўлены і нават аглушаны адкрыццём свайго недарэчнага становішча, яму страшна. А яму ж павінна быць і смешна. Кутасу У. Мішчанчука тут, відавочна, нестае нейкай долі блазенства, пазіравання перад самім сабой. Улічым, што герой Купалы да таго ж не вельмі ачомаўся ад учарашняга святочнага частавання. Драматычна «сур'ёзная» лінія

## АД СЭРЦА

### Джуманіяз ДЖАБАРАЎ:

У 1952 годзе я, малады паэт, супрацоўнічаў у часопісе «Саодат». Краіна рыхтавалася адзначыць 70-годдзе з дня нараджэння беларускага песняра. Мне даручылі перакласці некалькі вершаў Янкі Купалы, каб змясціць іх у часопісе. З вялікім хваляваннем узяўся я за справу: такое гучнае імя, такая магутная паэзія!

Перакладаючы, я яшчэ больш зразумеў і палюбіў паэзію Янкі Купалы, сапраўднага народнага паэта.

Пазней ужо я пераклаў на ўзбекскую мову вершы Петруся Броўкі, Максіма Танка, Максіма Лужаніна і іншых таленавітых паэтаў братняй Беларусі. Творчасць гэтых майстроў слова працягвае светлыя традыцыі Янкі Купалы, якога ва Узбекістане вельмі любяць.

Зараз працую над новымі перакладамі — хачу, каб узбекскі чытач яшчэ лепш ведаў творчасць народнага паэта Беларусі.

г. Ташкент.

### Эдзі АГНЯЦВЕТ:

Я не помню свету без Купалы,
Без трывожна-юных
«Арлянят».
Мне б, напэўна, сонца
не хапала,
Каб не сеяў ён сваіх зярнят.
Вязынкай зялёнай ганаруся,
Белы снег Беларучаў люблю.
Песня, родам з роднай
Беларусі,
Абляцела ўсю як ёсць зямлю.
У жыцці не знаў ён сцежкі
вузкай,
Знаў ён словы «гора»
і «навал»,
І таму на мове беларускай
Загучаў «Інтэрнацыянал».
Слухайце Купалу над Арэсай,
Ён да сэрцаў пракладае мост.
Слухайце!
З Купалаваю песняй
Жыта ўстала ў чалавечы рост.
Пэўна, лёс мне падарыў
замнога:
Помню поціск бацькаўскай
рукі...
Блізкі і далёкі ад зямнога,
Зноў ідзе, жывы, негаваркі.
У вясновым, светлым гарнітуры
Ён ідзе да новых Арлянят.
Крочыць ён праз святы і праз
буры,
Ясны, як Радзімы далягляд.

### Алесь БАРШЧЭЎСКІ:

ПРЫГАДВАЮЧЫ дзяцінства Купалы, мы знаходзім факты, якія надзвычай спрыялі знаёмству будучага паэта з польскай культурай і літаратурай.

Асаблівае значэнне тут мелі яго кантакты з удзельнікам студзеньскага паўстання, сібірскім выгнаннікам Зыгмунтам Чаховічам. Малады Купала быў удзячным слухачом: Чаховіч расказваў пра студзеньскае паўстанне, пра ідэалы свабоды і сібірскую ссылку. Усё гэта, несумненна, кранала ўражлівага хлопчыка.

Была яшчэ бібліятэка ў пакоі Чаховіча. Кнігі з гэтай бібліятэкі хлопчык мог браць без забароны. У Чаховіча былі кніжкі аб ранніх перыядах гісторыі Польшчы, багаты быў аддзел белетрыстыкі. Купала чытаў усё — і празаікаў, і паэтаў, і мемуары, а таксама нелегальныя лонданскія і парыжскія выданні. Такім чынам, ён даволі грунтоўна пазнаёміўся з польскай літаратурай XIX стагоддзя.

Сацыяльную праблематыку ён знаходзіў у творчасці такіх пісьменнікаў, як Ленартовіч, Сыракомля і Канапніцкая. Ён сам пазней сцвярджаў, што гэтыя паэты нароўні з Някрасавым і Кальцовым зрабілі на яго вялікі ўплыў.

...У Акадэміі навук БССР захоўваюцца 22 вершы паэта, напісаныя на польскай мове. І форма, і змест іх — сведчанне невялікага яшчэ ўмельства маладога паэта. Большасць гэтых твораў дарэвалюцыйнага перыяду прысвечана рэаліям жыцця людзей, лёсу, падзеям. Купала малюе выключна змрочны вобраз грамадскай рэчаіснасці і жыцця асобы.

З цягам часу Купала вызваліўся ад літаратурных уплываў юнацтва. Ён звярнуўся да рэчаіснасці, да штодзённага жыцця і пачаў тварыць на мове свайго народа. Але Купала і надалей захаваў цікавасць да польскай культуры і літаратуры. Ён перакладаў на беларускую мову творы Міцкевіча, Сыракомлі, Ленартовіча, Канапніцкай, Уейскага, Бранеўскага.

І сёння нам асабліва радасна гаварыць пра гэта, пра тыя цесныя культурныя сувязі, якія існуюць паміж палякамі і беларусамі, пра тую непарушную дружбу двух народаў, да якой заклікаў у сваіх творах вялікі беларускі пясняр.

г. Беласток.

### Найдан ВЫЛЧАЎ:

У СТАРЫМ блакноце я знайшоў запіс адной размовы, якая адбылася ў маі 1961 года ў Мінску.

— Янка Купала? О, Янка Купала з намі ад самых малых год. З калыскі. Ён з усімі: і з сялянскімі дзецьмі, з рабочымі і з інтэлігенцыяй.

— І што, цяпер гэта адчуваецца больш, як раней?

— Я не сказала б. Думаецца, што цяпер, як і раней,—што так будзе заўсёды. Ён з тых, што не адыходзяць з модай.

— Хіба няма новых паэтаў? Няма каму, так сказаць, прыняць эстафету?

— Новыя паэты былі і ёсць, ёсць яркія, цікавыя таленты. Яны з гонарам нясуць сцяг Купалы, непазбежна ўзбагачаючы нашу літаратуру. Але нішто новае не заменіць і не зацьміць такога паэта, як Янка Купала. Яму можна наследаваць, яго можна «развіваць» і «даразвіваць». Вядома, цяпер паэтычныя сродкі могуць быць у многіх адносінах іншыя, больш вытанчаныя — але кожны талент адчувае сябе перад яго творчасцю, як перад вытокам усіх крыніц, ставіцца, як да кораня ўсіх каранёў, адкуль расце дрэва нашай паэзіі. Вы самі былі ўчора ў тэатры. Яго «Паўлінку» мы глядзім колькі дзесяцігоддзяў —і недакучае гэта. Нам любы духоўны свет нашых дзядоў і прадзедаў. Мы жываты падрываем ад смеху над панком з галёшамі. У нашым уяўленні ён такі: адзіны сярод сялян, хто выдзяляецца «адукаванасцю», больш сучаснай вопраткай, манерамі, — і ўсё ж яму далёка да мужыка з яго натуральнасцю ў паводзінах, кемлівасцю, адкрытай нянавісцю, чыстым каханнем і сумленнем —мужыка, якім ён пагарджае. «Паўлінка» ў рэпертуары кожны сезон, ужо забыліся, калі яна не ішла на сцэне. Мяняюцца акцёры, пакаленні гледачоў, а за рампай па-ранейшаму чубяцца сваты, пастукваюць драўляныя лыж-



# ПЕРШАЯ НАСТАЎНІЦА

Роданачальнік сучаснай беларускай савецкай літаратуры, адзін са стваральнікаў беларускай літаратурнай мовы, Янка Купала перш чым стаць паэтам, прайшоў суровую і цяжкую школу дарэвалюцыйнага жыцця. Аб сваіх дзіцячых і юнацкіх гадах Янка Купала так успамінаў у аўтабіяграфіі: «Бацька мой некаторы час насіўся з думкай падрыхтаваць мяне ў якую-небудзь сярэднюю школу, але гэта так і засталося нязбыўнай марай. Беднасць прымусіла мяне ўзяцца за другую навуку, а іменна — чытаць журботную кнігу панскіх палеткаў і пісаць сумную аповесць свайго гора сахой ды касой!».

Ішоў 1889 год. Сямігадовы Янка страсна марыў вучыцца. У Сенніцы да гэтага часу ўжо амаль 20 гадоў працавала народнае двухкласнае вучылішча, адкрытае ў 1870 годзе. Вось у яго і быў уладкаваны на вучобу маленькі Янка. Першай настаўніцай будучага паэта стала Алімпіяда Васільеўна Сонцава, якая каля паўстагоддзя працавала ў Сенніцкай школе. У Сонцавай Янка Купала вучыўся ўсяго адну зіму, але на ўсё жыццё захаваў самыя добрыя ўспаміны аб гэтай цудоўнай настаўніцы.

На жаль, акрамя ўспамінаў імені ў біяграфіі Купалы, аб настаўніцы А. В. Сонцавай да гэтага часу нічога не было вядома. Ні ў архівах, ні ў музеях аб ёй не захавалася ніякіх дакументальных матэрыялаў. Натуральна, узнікалі пытанні: чаму менавіта Сонцава, якая вучыла Я. Купалу вельмі кароткі час, так запомнілася паэту? Чым здолела яна пакарыць уяўленне сялянскага хлопчыка? Як склаўся далейшы лёс першай настаўніцы Янкі Купалы? Зацікавілі гэтыя пытанні следапытаў Сенніцкай сярэдняй школы Мінскага раёна. Так узнікла задума пошуку, цікавага і карыснага. За дапамогай у распрацоўцы плана пошуку мы звярнуліся ў Мінск, у Літаратурны музей Янкі Купалы. І трэба адзначыць, супрацоўнікі музея неадкладна адгукнуліся на нашу просьбу, прыняўшы самы актыўны ўдзел у нашай рабоце.

У пошуках купалаўскіх матэрыялаў ахвотна прынялі ўдзел настаўнікі і вучні ўсёй школы.

У першую чаргу былі ўзяты на ўлік старыя, якія вучыліся ў Сонцавай. Іх аказалася ў бліжэйшых вёсках зусім няшмат. Нічога істотна дакументальнага знайсці не ўдавалася. Але следапыты не трацілі надзеі. Мы ўжо вырашылі змірыцца з тым, што пошук наш завершыцца запісанымі ўспамінамі, як нечакана прыйшло абнадзейваючае паведамленне. Дзеці даведаліся, што ў вёсцы Канюцічы (3 км ад в. Сенніца) пражывае Волкава Алімпіяда Рыгораўна, у якой Сонцава жыла нібыта апошнія гады свайго жыцця.

Сустрэлі нас ветліва, запрасілі ў дом, пасадзілі за вялікі круглы стол у гасцінай.

Першае пытанне напрошвалася само сабой. «Ці выпадковае супадзенне вашага імя з імем Сонцавай?»—пытаемся мы. «Не, невыпадковае,—адказвае яна, — Алімпіяда Васільеўна—мая хросная маці. У яе гонар бацька і даў мне імя Алімпіяда».

«Ці памятаю я Сонцаву? — працягвае Волкава.—Вядома, памятаю. І вельмі добра. Усё сваё жыццё яна была цесна звязана з нашай сям'ёй. Не маючы сваёй сям'і, яна звычайна



З МІНУЛАГА



# 1909 або 1907?

У СВОЙ ЧАС мне давялося займацца апрацоўкай фондавых матэрыялаў Літаратурнага музея Янкі Купалы. У рукі трапіла праграма двух спектакляў Драматычнага тэатра В. Ф. Камісаржэўскай: «Вечнай казкі» С. Пшыбышэўскага і «Балаганчыка» А. Блока; рэжысёрам і выканаўцам ролі П'еро ў «Балаганчыку» быў Усевалад Меерхольд. Але зацікавіла не старая праграма з цікавым рэпертуарам і славутымі выканаўцамі. На першай старонцы простым алоўкам напісана некалькі слоў... рукой Купалы!? Пры параўнанні з іншымі рукапісамі паэта сумненняў у аўтарстве не застаецца. Што ж можна сказаць аб гэтых выпадковых, безумоўна, напісаных на скорую руку радках:

*«Волперовский абонемент*
*шеколад*
*вино*
*Хованщина»?*

Амаль нічога, акрамя таго, што праз дзесяцігоддзі нават нязначны аўтограф вялікага Купалы мае каштоўнасць. Тройчы каштоўным бывае той аўтограф, калі дакладна вызначана дата і месца яго напісання. На першы погляд гэта зусім не складана. Занатоўку Янка Купала мог зрабіць толькі ў час спектакля або пасля яго. На праграме адзначана, што «Балаганчык» ставіцца ў 13-ты раз. Прэм'ера гэтага спектакля адбылася ў тэатры Камісаржэўскай 30 снежня 1906 года, «Балаганчык» ставіўся на сцэне на працягу 1907 года; у пачатку 1908 года адбыўся разрыў паміж В. Камісаржэўскай і У. Меерхольдам, і трупа распалася. Давялося адмовіцца ад пастаноўкі многіх спектакляў, у ліку якіх быў і «Балаганчык».

13-ты раз «Балаганчык» ставіўся ў верасні 1907 года ў Пецярбурзе пасля прыезду трупы з гастрольнай паездкі ў Маскву.

Значыць, Купала прыязджаў у 1907 годзе ў Пецярбург і, магчыма, паглядзеў самыя цікавыя спектаклі, якія ішлі на сталічных сцэнах? Праўда, ні сам паэт, ні яго сябры ніколі не ўспаміналі аб такой паездцы, і дзяжурнай стала думка, што Купала трапіў у Пецярбург на вучобу восенню 1909 года. Між тым ёсць сведчанне аб больш раннім прыездзе Янкі Купалы ў сталіцу. Гэта ліст прафесара Львоўскага універсітэта І. Свянціцкага ад 28.XI. 1949 года да Уладзіславы Францаўны Луцэвіч, у якім ён паведамляе аб сваіх сустрэчах з Янкам Купалам у 1907 і 1927 гг. І. Свянціцкі піша: **«...вершы Янкі Купалы «Там» і «Што ты спіш?» я атрымаў ад яго летам 1907 г., калі я жыў у Эпімах-Шыпілы...»** Свянціцкі памыліцца ў даце не мог. Вершы Янкі Купалы былі патрэбны яму для кнігі «Відроджене білоруського письменства», якая ўбачыла свет у пачатку 1908 года. Верагодна, што для збору матэрыялаў для сваёй кнігі Свянціцкі прыязджаў у 1907 годзе з Аўстра-Венгрыі ў Расію. Тут ён імкнуўся пазнаёміцца з самымі яркімі прадстаўнікамі беларускай культуры. Абмінуць Б. І. Эпімах-Шыпілу, які многа зрабіў для развіцця беларускай літаратуры і культуры, Свянціцкі не мог. Няма нічога дзіўнага, што па гораду суправаджаў вядомага прафесара новы знаёмы, малады беларускі паэт, якому цікава было пабываць у сталічных тэатрах. Магчыма, іменна тады, ранняй восенню 1907 года, у Янкі Купалы ўзнікла жаданне прыехаць у Пецярбург на больш працяглы тэрмін, якое паэт змог ажыццявіць толькі праз два гады.

В. ДЭКОНСКАЯ.

летнія канікулы праводзіла ў нас, а апошнія 12 гадоў пражыла ў нашым доме, у нас і памёрла ў сакавіку 1930 года.

Расказвае Алімпіяда Рыгораўна дзелавіта, падрабязна, стараючыся не ўпускаць дэталі. Мы ўважліва слухаем, запісваем на магнітафонную стужку яе расказ, але ва ўсіх нас круціцца на вуснах хвалюючае пытанне, ці захаваліся якія-небудзь дакументы, а магчыма, нават фатаграфія Сонцавай? З далікатнасці чакаем некаторы час і, нарэшце, не вытрымаўшы, пытаемся. Алімпіяда Рыгораўна падымаецца з месца, накіроўваецца да этажэркі і тым жа спакойным, ласкавым голасам гаворыць: «Як жа, ёсць фатаграфіі і нават такая, дзе Алімпіяда Васільеўна ў маладосці». Алімпіяда Рыгораўна адзявае акуляры, доўга шукае, перагортваючы старыя альбомы і, нарэшце, дастае дзве старадаўнія фатаграфіі, якія выдатна захаваліся, наклееныя на шчыльны кардон.

Адна фатаграфія ранняя, прыблізна 1885—1890 гадоў. Менавіта так выглядала Сонцава, калі ў яе вучыўся Янка Купала. Другое фота датавана дакладна —1908 год. Алімпіядзе Васільеўне ў гэты час было крыху болей за 50.

З пажоўклых здымкаў на нас глядзела прыгожая, відаць, энергічная і валявая жанчына. Разумны і інтэлігентны твар, скромная сукенка.

Дык вось яна якая, Алімпіяда Васільеўна Сонцава!

«Алімпіяда Васільеўна была жанчынай адзінокай, — расказвае Волкава,—у яе не было сям'і. Усё сваё свядомае і працоўнае жыццё (больш як 50 гадоў) яна аддала высакароднай справе навучання і выхавання дзяцей, працуючы бязвыезна ў маленькай Сенніцкай школе, якая гучна называлася вучылішчам.

Сонцава была настаўніцай высокаадукаванай, з шырокімі і разнастайнымі інтарэсамі. Яна дасканала валодала французскай і нямецкай мовамі (летам яна давала ўрокі замежнай мовы дзецям графа Чапскага і памешчыка Турчынскага), свабодна іграла на фартэпіяна (у яе быў свой інструмент). Паводле слоў Алімпіяды Рыгораўны, Сонцава ніколі не гаварыла ў іх доме пра бога і царкву, у пакоі яе не было абразоў.

Усе, хто калі-небудзь сустракаўся з Сонцавай, адзначалі яе здзіўляючую працавітасць. Яна не магла мінуты сядзець без справы. Нават у летні канікулярны час да яе пастаянна прыходзілі вучні, яе заўсёды можна было бачыць з кнігай у руках, альбо за працай у сваім маленькім гародзіку пры школе.

У Алімпіяды Васільеўны, відаць, быў рэдкі дар сапраўднага педагога. Яна ўмела так уводзіць вучняў у цудоўны свет ведаў, што ўрокі для тых, хто вучыўся ў Сонцавай 50 і 60 год назад, належаць да ўстойлівых і дарагіх успамінаў. Не дзіўна, што і ў Янкі Купалы яна пакінула добрую і ўдзячную памяць.

І як прыемна ўсведамляць, што праца сціплай сельскай настаўніцы, якая вучыла будучага вялікага беларускага паэта, не прапала дарэмна, што добрае, харошае, высакароднае ўвасобілася ў справах, учынках, ва ўсім жыцці яе вучняў.

**Э. ФРЫДМАН.**

---

# ЗАЎСЁДЫ Ў ПАМЯЦІ

Сустрэчы з Янкам Купалам запалі ў маю памяць на ўсё жыццё. З яго творамі я пазнаёміўся ўпершыню ў 1919 годзе. З той пары я і лічу сваё першае знаёмства з Янкам Купалам.

Калісьці яшчэ ў час вучобы ў Мінску ў Белпедтэхнікуме я пазнаёміўся з дзейнасцю «Маладняка». Хадзілі мы на сходкі гэтай пісьменніцкай арганізацыі. Там я пабачыў Янку Купалу. Аднойчы П. Глебка сказаў, што Я. Купала жыве якраз у тым доме на Правіянцкай, які знаходзіцца насупраць нашага інтэрната.

Не памятаю, па чыёй ініцыятыве, але мы надумаліся наведаць паэта ў яго доме. Жыць па суседству і не пазнаёміцца? Пайшлі мы ўпяцёх. Пастукаліся ў дзверы. Адчыніла цёця Уладзя.

— Заходзьце, заходзьце, хлопчыкі! — запрашала яна, не пытаючыся нават, чаго мы завіталі.

— Хто там? — пачуўся крыху хрыплаваты голас.

— Ды тут хлопцы, відаць, студэнты і, мяркую, да цябе!..

— А, можа, да цябе?— смеючыся, запытаў Янка Купала, які выйшаў нам насустрач.

Цёця Уладзя нешта хацела адказаць, але Іван Дамінікавіч ужо запрашаў нас праходзіць далей. Ён прапанаваў садзіцца на канапку, якая стаяла недалёка ад стала, а сам сеў насупраць.

— Суседзі, значыць? — запытаў ён.

— Суседзі! — адказаў за ўсіх я.

— Як жа вас завуць?

— Мяне—Янка!

— Цёзка, значыць?

— А гэта—Валодзя, Макар, Пятро, Міхась...

— Ну, дык што вы?

— Ды прыйшлі пазнаёміцца! Вы паэт, а не ўсялякаму даводзіцца пабачыць жывога паэта...

— Дык «я ж не паэта, о, крый мяне, божа!»—засмяяўся Купала.

— Гэта мы чыталі. Але няпраўда, што вы не паэта!—запярэчыў, асмялеўшы, Макар.

— Ну што ж, тады глядзіце! — засмяяўся Купала. Ён абапёрся падбародкам на далонь і знерухомеў.

Што нам было рабіць? Я ўзяўся за шапку.

— Дык куды вы?—занепакоіўся, смеючыся, Янка Купала.

— Пойдзем ужо. І так у вас час адарвалі... Вы, магчыма, напісалі б што...

— Не, не!.. Пасядзіце! Уладзя, пачастуй нас хоць чаем!— паклікаў ён жонку.

— Не трэба турбавацца наконт чаю!—запярэчыў Макар. — Лепш, калі можаце, пачытайце нам свой твор!

— Пачытаю, пачытаю! А чай усё роўна піць будзем! — Ён перакінуў некалькі кніжак на этажэрцы, а тады ўзяў сшытак і прачытаў нам два вершы: «Улетку» і «За ўсё».

Калі мы выходзілі, Купала правёў нас аж на двор і на развітанне запрасіў:

— Заходзьце, хлопцы!

**Іван БУДЗЬКО,**
настаўнік.

г. п. Хойнікі.



Гэты здымак зроблены пасля гераічнай чалюскінскай эпапеі, калі адзін з яе ўдзельнікаў Аляксандр Міронаў спаткаўся з народнымі песнярамі Беларусі Якубам Коласам і Янкам Купалам. Тады яшчэ ніхто не ўгадваў у маладым мараку будучага вядомага празаіка...

# «ЗВОНІЦЬ ТАБЕ ЯНКА...»

Янка Купала быў добрым сябрам і настаўнікам маладых літаратараў. Бадай, усе з першага пакалення беларускіх савецкіх пісьменнікаў зведалі, адчулі яго ласку, сагаду і падтрымку. Сведчаннем гэтаму — жыццёвы і творчы лёс Платона Галавача. З вялікай любоўю адносіўся да яго народны паэт. Не адзін год звязвала іх шчырая дружба.

Вось маленькі штрышок- успамін С. Шушкевіча:

«— Кватэра Галавача? Платон Раманавіч? Звоніць табе Янка... Ты збіраешся ў дарогу. А да мяне?.. Забяжыш? Ёсць неадкладная размова...

Не больш як праз паўгадзіны Платон Раманавіч быў ужо ў Янкі Купалы. Уладзіслава Францаўна, жонка паэта, запрасіла Платона Галавача і мужа весці размову за шклянкаю чаю...

— Куды ж цябе панясуць ногі? — спытаў Купала ў Галавача.

— Зноў службовая камандзіроўка. Пасылае мяне Цэнтральны Камітэт партыі на тыдзень у вёску.

— А ведаеш, Платонка, што і я хачу тое-сёе ўзваліць табе на плечы. І ты ад мяне не адкруцішся...».

Колькі ў іх было такіх сустрэч і шчырых сяброўскіх размоў! Яны сустракаліся ў хатніх абставінах, у Саюзе пісьменнікаў, у рэдакцыях, у выдавецтве, падарожнічалі разам па рэспубліцы і па краіне. У складзе брыгады беларускіх пісьменнікаў Я. Купала і П. Галавач прысутнічалі на ўрачыстым адкрыцці Днепрагэса, наведалі Краматорскі машынабудаўнічы і Харкаўскі трактарны заводы, на параходзе «Анохін» аглядалі толькі што збудаваны Беламорска-Балтыйскі канал, разам ездзілі на Асінбуд і Мар'інскія балоты. Былі яны побач і тады, калі ў госці да беларусаў прыязджалі пісьменнікі братніх рэспублік.

З глыбокай павагай ставіўся Платон Галавач да дзядзькі Янкі. Ён называў Купалу вялікім мастаком, творчасць якога пераконвае і вучыць. На ўрачыстым вечары, прысвечаным пяцідзесяцігоддзю народнага паэта, П. Галавач гаварыў: «Вялікай любові да працоўных мас і вялікай нянавісці да ворагаў наша творчая моладзь будзе вучыцца ў Купалы, аднаго з выдатнейшых паэтаў савецкай эпохі».

Ёсць меркаванне, што П. Галавач падказаў Купалу тэму шырока вядомай паэмы «Над ракой Арэсай» — буйнейшага паэтычнага твора песняра савецкага часу. Ён жа адным з першых адгукнуўся на паэму вялікім артыкулам «Паміж учора і заўтра», дзе падкрэсліваў, што яе роля, акрамя мастацкіх і ідэйных вартасцей, яшчэ і ў тым, што яна ставіць пытанне, якое «вялікае значэнне для творчай працы пісьменніка мае непасрэдны ўдзел у гаспадарчым і палітычным жыцці нашай краіны». Грунтоўна аналізуючы паэму, П. Галавач вітаў гэты твор пра гераізм новых людзей, якія вызваліліся ад сацыяльнага рабства і вядуць мужнае змаганне з прыродай.

Абагульняючы свае разважанні аб паэме, П. Галавач прыходзіць да думкі, якая і сёння гучыць вельмі актуальна: «Каб стварыць вялікае і выдатнае, трэба ўмець адчуваць пульс сваёй краіны, трэба глыбока ведаць новае жыццё і людзей, якія яго ствараюць, ведаць так, каб за малым, на першы погляд нязначным, будзённым, бачыць сапраўдны твар Краіны Саветаў і яе людзей».

У артыкуле «Змагацца і будаваць разам» П. Галавач гаварыў, што творчасць Купалы — гэта не толькі сведчанне яго ўласнай сілы, але і сацыяльнай сілы грамадства, прадстаўніком якой з'яўляецца паэт. Задоўга да рэвалюцыі клікаў ён народ «з цемры да святла». «І калі сялянства, кіруемае партыяй рабочага класа, пачало свой шлях у сацыялістычную будучыню — сацыялістычную перабудову вёскі, — паэт здолеў узняцца да вышынь эпохі, каб, сцвярджаючы сацыялістычную рэчаіснасць, будзіць у масах сялянства жаданне ствараць яе». Правільнае разуменне паэзіі Купалы, якая гучала магутным сцвярджэннем бальшавіцкай праўды на зямлі, дапамагала маладому пісьменніку жыццёва і творча сталець, шукаць сваіх сцяжынак да людскіх сэрцаў. Шчаслівы лёс звёў П. Галавача з найвыдатнейшым паэтам, і яны крочылі адным шляхам.

**Э. КАРНІЛОВІЧ,**
кандыдат гістарычных навук.

---



кі, і публіка заходзіцца ад смеху.

— Каго ўсё ж паказвае аўтар?

— Каго паказвае? Паказвае нас, нас усіх. Выказвае самога сябе, сваю думку пра народ, пра ягоную будучыню. І ва ўсім — душа беларускага селяніна, які можа быць і з Полацкага, і з Гомельскага краю, і з Брэстчыны — з любога кутка нашай зямлі. Гэта асяроддзе, з якога выйшаў паэт. Гэта вы ведаеце.

□

Так, я ведаю гэта. Як і тое, што кожны, хто хоць што-небудзь чуў пра Беларусь, ведае, што такое Янка Купала. Ён так звязаны з гісторыяй краіны, так непахісна стаіць у цэнтры яе культуры, так зліты з яе пакутамі і надзеямі, з барацьбой і імкненнямі свайго народа, што яго імя на Беларусі ўспамінаецца ў пачатку кожнай размовы. Моладзь асабліва любіць вершы Купалы, іх вывучаюць напамяць з маленства. Іх лёгка вучыць, яны добра запамінаюцца. Таму іх ведае кожны. Янка Купала з самага пачатку быў з народам, жыў яго спадзяваннямі, бядой і пісаў пра тое, што бачыў і перажыў. І як жа прыйшло да яго, беднага хлопца, калі браўся за пяро, што сваімі песнямі ён западзе ў сэрца і розум народа, і хто такі — мужык, у каго школа і навука былі адно саха і пясчанае поле?!

□

Не магу забыць тое, што некалі прачытаў у біёграфаў Янкі Купалы.

...Бацькі і дзеці, уся сям'я дробнага арандатара павінна была цяжка і нястомна працаваць, каб разлічыцца з земляўласнікам і зарабіць сабе кавалак хлеба. Тут, пад пагардлівым поглядам пана, спалохана зірнуў першы раз на свет будучы паэт. Вучыцца не было як. Хадзіў у школу з перапынкамі тры зімы. Пакідаў, зноў пачынаў, а пасля давучваўся самастойна. Шмат чытаў. Чытаў, што трапляла пад руку. Пры святле лучыны, «каб не паліць марна газы», а то і пры святле месяца...

Я пытаў сам сябе: калі гэта было? У дваццатым стагоддзі. Дзе? У Еўропе, у цэнтры цывілізаванага свету.

□

Для рэвалюцыйнага паэта такі пачатак—бліскучы: крытыка не заўважае яго першай кнігі. А паліцыя — наадварот. Нават канфіскуе яе.

□

І псеўданімам сваім, і назвамі кніг — «Жалейка», «Гусляр» — Янка Купала вызначыў характар сваёй творчасці і акрэсліў кола сваіх чытачоў. У гэтым коле ён і сцвердзіў сябе як паэт. Ён пісаў проста, але не прымітыўна, дэкларатыўна, але натхнёна. Першы надрукаваны твор ён назваў проста і з выклікам — «Мужык». Той першай, на дзіва непасрэднай і шчырай споведзі ён застаўся верны да канца. Ён не мог інакш, бо быў звязаны з народам, як жытняе зерне— з маці-зямлёй. У паэзіі Янкі Купалы няма мудрагелістых параўнанняў, няма дзівацкіх метафар і асацыяцый. Яго літаратура нявыдуманая. Сродкі пушкінску простыя, думка выразная, як плакат:

Я не для вас, паны, о не...

□

Гусляр у «Кургане» — асоба асуджаная. Чаму? Таму што ён мусіць сказаць праўду. І ён выказвае яе—безаглядна, гатовы на ўсё. І ён за гэта плоціцца.

Зарабляе смерць.
Ці бяссмерце?
Гусляр? Ці аўтар?

□

Купала прыйшоў у Балгарыю позна. З трыма вершамі, якія ў 1945 годзе пераклаў Людміл Стаянаў, і з адным томікам, які выйшаў у 1962 годзе.

Але бывае, што познія госці робяцца самымі дарагімі, ты адчуваеш сябе з імі такім багатым, што хочацца, каб яны засталіся ў цябе назаўсёды.

г. Сафія.

АД СЭРЦА

